


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 03 (3271) Год LXIV | Беласток, 20 студзеня 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




## Развітанне з Юрым Туронкам, Варшава 10.01.2019 г.



Фотарэпартаж Ганны Кандрацюк















# Навагодні падарунак 2019

Ад Новага года да Старога Новага года цэлых два тыдні. А можа ўсяго два. Гэта як хто лічыць. Таксама як з той шклянкай, якая для адных напалову поўная, а для другіх напалову пустая. І нават калі тая шклянка — навагодні падарунак, усё адно філасофскі складнік застаецца, бо гэта прэзент зусім іншага кшталту. І яшчэ трэба падумаць, браць яго, ці не.

Ёсць і трэцяя катэгорыя людзей, якім больш важна не колькі там наліта ў той шклянцы, ці колькі там недаліта, а важна для іх, што там наліта, бо ў цяперашні час па знешнім выглядзе або паху вызначыць змесціва амаль нерэальна. Такі вось падманны час прыйшоў, што падробка ўжо таксама лічыцца легальным прадуктам.

Да чаго гэта я вяду? Ды да навагодніх падарункаў, канешне ж. Да падарункаў ад беларускай улады свайму народу. Беларусы прывыклі, што на Новы год прэзенты ім гарантаваныя, ды такія, якія выклікаюць бурныя эмоцыі. А што нашае жыццё? Ну, канешне ж, эмоцыі! Якія эмоцыі, такое і жыццё.

Кожны новы год эмоцыі зашкальваюць. Ці курс рубля зваліцца ніжэй плінтуса, ці цэны на паслугі вырастуць, ці і тое, і другое... Ну а гэтым разам варыянт трэці. І незразумела, што там наліта ў той шклянцы. Хоць пахне як звычайна, ды і на выгляд ужо звыклае нешта, а вось пра змесціва адны дагадкі.

Ну з'ездзіў перад Новым годам беларускі кіраўнік у Маскву па падарункі для беларускага народа, ці па што яшчэ там. Сказаць цяжка па што. Да канца не расскрэціл. Ды не адзін раз з'ездзіць прыйшлося. Што ад яго хочуць там, з большага зразумела. Свае жаданні расійскі кіраўнік агучыў ужо даўно. І трэба аддаць яму належнае. Жаданні не мяняюцца і ён стабільна рухаецца да іх рэалізацыі. Гэта прага далучыць Беларусь да Расійскай Федэрацыі часткамі або цалкам. Лепш, канешне, цалкам. Чаго тут драбязнічаць. І намераў сваіх крамлёўскі гаспадар не хавае.

А вось з чым беларускі начальнік вярнуўся з Масквы, з падарункамі, ці з голымі рукамі, надалей застаецца загадкай. Лепш канешне з пустымі, бо падарункі адтуль могуць і не засмакаваць. Як сцвярджае мудрая лацінская фраза з паэмы Вяргілія „Энеіда", „баюся данайцаў і тых, хто дары прыносіць".

І вось ужо два тыдні, ад новага года да старога, беларуская грамадскасць стараецца гэта разгадаць. Прычым на ўсіх роўнях — аналітыкі, палітыкі, палітолагі, журналісты, грамадскія актывісты, блогеры і іншы неабыякавы народ стараецца прааналізаваць, як сябе ў пятым куце павядзе загнаны начальнік Беларусі. І хоць на Стары Новы год не аналізаваць, а гадаць трэба, сутнасць аналізу не мяняецца. Усё зводзіцца да таго, што выбару сабе беларускі начальнік амаль не пакінуў.

І нейк нечакана некаторыя палітычныя дзеячы Захаду сталі прыязджаць невядома чаго. І вугорскі міністр замежных спраў і знешняга гандлю адразу пасля Старога Новага году наведае Беларусь. А адразу за ім з рабочым візітам завітае міністр замежных спраў Аўстрыі, якая на сваім вяселлі эфектна вытанцоўвала з гаспадаром Крамля. Цікава, на чыім баку яна зараз танцуе? Якіх танцаў ад яе чакаць цяпер — крамлёўскіх, ці брусельскіх?

Ды і ў самым Бруселі для беларусаў падрыхтавалі някепскі навагодні падарунак на 2019 год. Адтуль параілі палякам, мякка кажучы параілі, каб тыя адмянілі для жыхароў сінявокай самыя папулярныя, даступныя і распаўсюджаныя шэнгенскія візы „па закупы". Выглядае, што і там больш зацікаўленыя, каб беларусы ў Расію ездзілі, а не ў Польшчу.

Сам жа беларускі кіраўнік заявіў, што сёння на парадку дня такога пытання як уваход Беларусі ў Расію няма. Ці гэта значыць, што яно будзе заўтра, невядома. Але ўрад Беларусі тэрмінова ўключыў трыццаць чалавек у рабочую групу па інтэграцыі з Расіяй.

Просты ж люд беларускі, ды і часамі не зусім просты, сцвярджае, што ніхто не прымусіць беларускага лідара рабіць тое, чаго ён не хоча. Але, як і заўсёды, больш спадзяюцца не на кагосьці, а на сябе. І ўжо пагаворваюць, што яны рабіць стануць калі што. Хто ўцякаць, а хто хавацца, ну а нехта і не здавацца. І з традыцыйнай беларускай цярплівасцю раяць не спяшацца адчыняць той падарунак. Хай пакуль упакаваны будзе.

Віктар САЗОНАЎ

# Самы небяспечны з дэманаў



Ёсць нядобра. Ёсць блага. Не было добра на працягу доўгага часу, але на самой справе ніколі не было задобра, каб магло б быць лепш. Палітычная эра «цёплай вады ў кране» з'яўляецца самым балючым прыкладам. На самой справе тады было горш, чым было проста дрэнна. Менавіта ў той час пачала развівацца польская хвароба. І не быў гэта грып...

Штораз большы лік фрустратаў, гарцуючых сярод белага дня з цесакамі, мачэтэ і нажамі ў руках, якіх мы не ўспрымалі ўсур'ёз, лічыўшы іх сацыяпатычныя паводзіны экзатычнымі і выпадковымі. Як ультраскія бітвы на жалезіва і шрубы перад бездапаможнымі вачыма паліцыі, усё ж на перыферыі грамадскага жыцця. Абмінаючы непасрэдныя ахвяры, пахвастаныя нажамі або дрокамі, таксама сярод пастаронніх мінакоў, як актыўных удзельнікаў плямянных войнаў, сярод грамадства звычайна разглядаліся крыху віртуальна, як імглістыя факты не пранікаючыя, аднак, у перажываную тут і цяпер рэчаіснасць. Ці спроба зарэзання спрыяючага Грамадзянскай платформе прэзідэнта Гданьска, Паўла Адамовіча, якая больш асацыюецца з публічнай экзекуцыяй, чым з актам адчаю, загаіць сацыяльную ці, магчыма, палітычную глухату? «Ало, ало! — крычаў са сцэны ўзброены ў дэсантны нож зладзюга, які наважыўся на асобу прэзідэнта. — Мяне завуць Стэфан В., я сядзеў, невінаватым, у турме (...). Грамадзянская платформа мучыла мяне, таму загінуў Адамовіч!» — крычаў ён, дарэчы, згодна з духам крыміналізацыйнага аповеду, прынятага «добрай зменай». Асаблівым супадзеннем сам факт нажаўніцкага пачыну, які адбыўся на вачах шматтысячнай аўдыторыі, прымаючай удзел у заключным канцэрце Вялікага аркестра святочнай дапамогі, якому папярэднічалі настойлівыя старанні «добрай змены» аб зафальшаванні хору шчырых сэрцаў пад дырыжорствам Юркі Оўсяка. Грамадскае тэлебачанне проста апаганьвала яго справу. Але шчодрасць дабрадзеяў аказалася сёлета рэкорднай. Мабыць, палякі маюць надалей здаровыя сэрцы, і толькі розумы — каб толькі не цалкам! — заатакаваны ракам ПІСаўскай прапаганды?

На жаль, лечымся тады толькі, калі захварэем. Тым больш радыкальна, чым больш цяжкае захворванне, не звяртаючы ўвагу на яшчэ больш небяспечныя ад хваробы пабочныя эфекты тэрапіі. Калі мы здаровыя, занядбоўваем і прафілактыку, і маніторынг здароўя. І ў гэты час могуць адбыцца запаленчыя змены ў няўстойлівым з натуры арганізме. На самой справе, любая сістэма, няхай гэта будзе чалавечая, або грамадска-палітычная, задавальняецца пасіўнай працягласцю «паміж» раскрытай і нераскрытай хваробай. Гэта такі пастаянны і ў адпаведнасці з чалавечай прыродай бясклапотны перыяд «цёплай вады ў кранах», параўнальны з інтэлектуальнай гібернацыяй. Прыказка кажа, што калі розум спіць, нараджаюцца пачвары.

Палітычныя і грамадскія занядбоўванні эпохі «цёплай вады ў кранах» — зараз неістотныя яго прычыны — абудзілі са спячкі польскія дэманы. Падчас «добрай змены» яны вылезлі з цёмнага лабірынта польскіх галоў. Назавем некаторыя з іх. Гэта рэлігійная і культурная нецярпімасць, нацыяналізм кранаючыся фашызму, рэлігіянцтва, псеўдапатрыятычная крывадушнасць, пасрэднасць і „мнедалямпачакізм", напышлівасць народжаная з нацыянальных комплексаў, ішоўшая за гэтым грамадская пасіўнасць і індывідуальная агрэсіўнасць. Прачнуўшыеся дэманы былі прывязаныя да ланцугоў. «Добрая змена» спусціла іх з ланцугоў. Сёння яны лютуюць паўсюдна. Ад палітычных салонаў да шынкоў. Ад касцельных прытвораў да лекарскіх кабінетаў. Хлусня, падман, ганарыстасць і прагнасць сталі цнотамі палітыкаў і дэпутатаў. Пастаянная падтрымка, якую яны маюць сярод сваіх выбаршчыкаў, пераконвае мяне асабіста, што яны вымяраюць сваё сумленне ідэнтычна, як і тыя, шкалой перавышаных каштоўнасцей. Але не дайма сябе абмануць, выпас дэманаў у польскіх рэаліях не можа адбывацца без маўклівага або пасіўнага грамадскага прызнання. Пасіўнасць, мабыць, самы небяспечны польскі дэман. Пасіўнасць, за якой стаіць адсутнасць грамадскай разважлівасці і ўявы, дазваляе выкарыстоўваць кіраўніцтву дзяржавы самыя прымітыўныя інструменты ўлады — фанабэрыстасць і невуцтва. Спроба выкарчавання Белавежскай пушчы — таго прыклад. Цяпер рыхтуецца поўнае знішчэнне польскіх дзікоў. А каго або чаго — заўтра?

Міраслаў ГРЫКА

Сваімі вачыма

# Без свінні і дзіка ў іхнім годзе

Пачатак года заўсёды прыносіць павышаную цікавасць да таго, якімі будуць чарговыя трыста шэсцьдзясят пяць дзён каляндарнага кругазвароту. Некаторыя прачытваюць усе гараскопы, іншыя нават наведваюць варажбітоў, каб тыя хаця крыху раскрылі таямніцу будучых дзён. Ва ўсім свеце цікавяцца яшчэ, які звер у гэтым годзе з'явіцца ў кітайскім календары пасля адыходзячага ўжо неўзабаве года сабакі. Новы год у кітайскім календары паводле месячнага цыкла пачнецца 5 лютага 2019 года, а закончыцца 24 студзеня 2020 года. І будзе гэта год свінні (дзіка). Колерам дамінуючым будзе рыжы, а стыхіяй — Зямля. Папярэднія гады свінні мелі месца ў 1923, 1935, 1947, 1959, 1971, 1983, 1995 і 2007 гадах. Адным словам, кожныя дванаццаць гадоў такі год паўтараецца. Як няцяжка палічыць, чарговы такі год будзе ў 2031 годзе. Паводле кітайцаў год свінні — гэта час летуценнікаў і тых, хто хоча дасягнуць поспеху. Гэта час карыстання ў жыцці з таго, што найлепшае, і засяроджанасці на духоўных прыемнасцях. Дамінуючай будзе любоў да свабоды і прыгажосці. Гэта час вечнага аптымізму з лозунгам: не сумуй, будзь шчаслівым. Гэта таксама час талерантнасці, спачування і шчодрасці. Негатывам можа быць упушчэнне кантролю над нашымі страсцямі. Апошнім са знакаў кітайскага календара ёсць сімвал завяршэння пачатых спраў. Гэта таксама час гарманічнага спакою. Таму ўсіх, хто народжаны ў гадах гэтага знака, чакае проста паспяховасць, чаго жадаю ўсім нашым чытачам услед за кітайцамі.

На першы погляд для нас, беларусаў, год свінні ці дзіка павінен быць таксама спрыяльным. Бо хто ж не любіць, асабліва зараз, у святочны перыяд свіных прысмакаў, вэнджаных ці печаных. Ну і добрая саланіна не заступіць іншых смакоцця. Колькі ж узнікла літаратурных сюжэтаў пра смаленне паршукоў, ці расказаў пра каўбаскі пальцам напіханыя. Заўсёды перад маімі вачыма вымалёўваюцца вобразы знясіленых ужо бабуль і дзядуляў, якія, пакуль ім духу хапіла, адкормлівалі за лета парку вепручкоў, каб было чым угасціць і даць падарункі гарадскім дзецям і ўнукам. Такая рытуальная, падляшская гісторыя дачакалася нават увекавечання ў выглядзе песні гурту «Ас» пра гарадскіх, што едуць на машыне на вёску менавіта па свіныя далікатэсы. Але, хвіліну задумаўшыся, аказваецца, не ўсё ўжо выглядае так аптымістычна. Пра гэта ўжо можам гаварыць як пра мінулы і закрыты час, да якога пакуль не відаць вяртання.

Вядома, усё дзякуючы афрыканскай чуме свіней. Пісаў я ўжо год таму, што нарабілася на нашых вёсках па гэтай прычыне. Не пачуеш тут ужо рохкання, ці віску, бо людзям забаранілі трымаць паршукоў на свае патрэбы. Проста, адказныя за эпідэмію службы падклалі ўмоўную «свінню» свіналюбіваму народу! Не менш складаная справа і ў Рэспубліцы Беларусь, дзе для большасці вясковага насельніцтва выгадаваць паршука было проста справай гонару. А тут таксама абмежаванні і забароны. Ад сваіх знаёмых чую я расказы, як людзі маскіруюць свой свіны труд, што проста нават пры нямецкай акупацыі такога не прыдумалі. Таму баюся, што год няшчасны, беларускай свінні перанясецца і на грамадска-палітычнае жыццё. Бо ў гэтай прасторы, у адрозненне ад вёскі, дзе скарачаецца свіны статак, колькасць свіней і прыкарытнікаў пабольшваецца з невераґоднай хуткасцю. А ў свеце ігракоў з гэтага свету ўзаемнае «падкладванне свінні» адзін аднаму ў палітычнай барацьбе лічыцца зараз абавязкам.

Незайздросны зараз таксама лёс сваяка свінні — нашага дзіка. Ці пражыве дзічыны род вайну, аб'яўленую ім паляўнічымі ўсёй Еўропы, ведае хіба толькі адзін сам Гасподзь. Бязлітасны адстрэл гэтага віду жывёлы мае быць паратункам ад АЧС. Мне, як пушчанскаму дзіку, крыху страшнавата становіцца, што з апошнімі пушчанскімі людзьмі адыдуць і пушчанскія дзікі. А можа так проста дзейнічае закон рэзервацыі апошніх абарыгенаў на гэтай, падляшскай, зямлі?

Яўген ВАПА



# У дарозе

На чыгуначны прыпынак Беласток-Стадыён дабіраюся спешна ў суботу, напярэдадні каляд, у яшчэ цёмную раніцу цераз свежанькі снег, які яшчэ не згорнуты з тратуараў. Заходжу каля трох мінут да прапіснога адпраўлення цягніка ў напрамку Чаромхі. Мінае больш хвілін, цягнік той не падае духу, але ў, здаецца, непраезным месцы паказваецца аўтобус, якому ў гэтую раніцу даручана сыграць ролю поезда. Гэтак бывала, калі на лініі паміж Беластокам і Бельскам клалі новае чыгуначнае палатно і новыя рэйкі. Тады быў спецыяльны расклад і вызначаны адмысловы маршрут, па якім тады і курсіравалі тыя заменнікі рэйкабусаў. І тады пасажыры ведалі, дзе і калі чакаць свайго транспарту. А зараз, калі ўжо салідна ляжаць новыя пуці, такі ход чыгуначнага транспарту з'яўляецца непрыемнай нечаканасцю для пасажыраў.

Ну, едзем далей. У салоне таго аўтобуса заняў я места амаль зараз за кандуктарам, які аказаўся даволі гаваркім з пасажырамі чалавекам. І вось ён і патлумачыў, чаму такая нечаканая змена так табару, як і трасы. Трасы, бо ж вядома, што звычайны аўтобус па рэйках не паедзе. Але вось з табарам у нас клопат — яго не хапае. Нашы ўлады рашылі пусціць цягнікі ў Коўна і дзеля гэтага на мясцовы табар зваліліся дадатковыя задачы. Таго табару можа хапіла б на ўсе чыгуначныя курсы, адно бяда, што пяць складаў паламаныя, ужо палову года знаходзяцца ў рамонтным дэпо ў Мінску-Мазавецкім і там каля тых нашых цягнікоў, як гэта гаворыцца, і кот не валяўся — ніхто іх лёсам не турбуецца. Таму і пасылаюць аўтобусы заміж цягнікоў на найменш бадай прэстыжную лінію, якая і вядзе ў найбольш бадай традыцыйную Польшчу-Б.

У Галоўках, у пачатку вёскі, з аўтобуса злазіць двойка пасажыраў і аўтобус імчыцца далей. Зараз за чыгуначным пераездам перад станцыяй у Страблі, каля моста цераз Нарву, аўтобус спыняе жанчына. Аказваецца, чакала яна поезда ў супрацьлеглым да нашага напрамку, у Беласток. Але не дачакалася і едзе ў Бельск, каб адтуль на „нармальным" аўтобусе дабрацца ў свой Беласток. Тут аўтобусны салон даведаўся, што між Сухавольцамі і Рыгораўцамі пад цягнік, які ехаў з Чаромхі ў Беласток, трапіў зубр, цягнік паламаўся і далей не паехаў. Бо зубры, так як і ласі, гэта вялікія жывёлы, якія нікога і нічога не баяцца, таму і ходзяць усюды бестурботна. Яшчэ калі такога велікана поезд ударыць буферам, тады яго адкіне ў адхон, але калі той звер трапіць паміж буферы, тады ён парве істотныя правады і машына далей не паедзе. Дзе тонка, там і рвецца, пракаментаваў падзею кандуктар.

Далей размова пайшла пра такія ўдарныя выпадкі, якіх сведкі аказаліся ў салоне аўтобуса. Выпадкі такія вельмі непрыемна суправаджаюцца трэскам касцей гінучай жывёлы. Ды не толькі пра ласёў і зуброў пайшла размова, але тэма пашырылася і пра цікавінкі іншай флоры, у тым ліку і сабак, якія, калі паднімаюць нагу каля нейкага месца, гэта абазначае не толькі мечанне таго месца, але і спеласць таго сабакі да спарвання.

У Плюцічах пажылыя жыхары выйшлі перад свае хаты разгортваць свежы снег. Гартаюць не толькі мужчыны, але і жанчыны, якіх зараз у нашых вёсках большасць.

— Вось і маем працоўнае раўнапраўе: бабулькі таксама працуюць, — адзначыў адзін з пасажыраў.

Паказалася мабільная крама, пайшла гаворка пра выгаду пакупнікам, але і, асабліва, прадаўцам.

— Spółdzielnia objazdowa — krawaty wiąże i usuwa ciąże, — забаўным каламбурам падвёў тэму кандуктар.

У Райску пасажырку машына падвезла пад самую хату.

— Але і трапілася мне, — узрадавалася жанчына.

— Як сляпому сабаку ў чужой вёсцы, — пачуўся адказ з салона.

У Бельску перад вакзальным будынкам чакала пяцёрка пасажыраў, але ніхто не сеў у чыгуначны аўтобус; чакалі сваіх, традыцыйных аўтобусаў. А кандуктар прасіў па мабільніку дзяжурнага руху ў Чаромсе, каб прыпыніў поезд у Седльцы, бо аўтобусны „цягнік" прыедзе туды са спазненнем каля дзесяці хвілін пасля раскладнога адпраўлення поезда ў Седльцы. Дарэчы, таго кандуктара неўзабаве чакала службовая паездка на BMW — *bardzo mały wagon*...

Прыйшлося пакінуць і мне вясёлы аўтобус, але вяртацца ў Беласток чыгуначным транспартам не было ніякага сэнсу. Бо ж невядома, ці той, пазначаны ў раскладзе, цягнік прыедзе, ці не прыедзе. А калі заміж яго пакалясіць аўтобус, то дзе чакаць яго; не на чыгуначным жа прыпынку. Вось у час Грамадзянскай вайны ў Расіі сто гадоў таму цягнікі таксама хадзілі як ім прыходзілася; і Жаромскі пісаў пра гэта, і Пастарнак... Але тады пасажыры ведалі, дзе іх чакаць — на чыгуначных станцыях. У тым ліку і нашы бежанцы пільнавалі чыгункі. А цяпер іхнім нашчадкам у нашым тутэйшым наваколлі ў еўрапейскім мірным XXI стагоддзі прыходзіцца рашаць крыху больш складаныя чыгуначныя красворды. Такі прагрэс...

Прагрэс, па сутнасці, ёсць. Бо на прыпынкавых стэндах пададзена інфармацыя, куды звяртацца за даведкамі пра курсіраванне цягнікоў. І па мабільніку пасажыр можа даведацца, што заміж чаканага ім поезда паедзе аўтобус. Толькі калі ён стаіць на чыгуначным прыпынку, напрыклад, у згаданых раней Рыгораўцах ці Сухавольцах, то як яму дабрацца ў пару на адлеглы за два ці тры кіламетры адпаведны аўтобусны прыпынак?..

Таму пехатою вандрую ў Бельск. У Спічках далучаецца да мяне байкаватыя сабака львінай масці. Угаворваю яго, каб аставаўся ў вёсцы, але ён рашыў моўчкі суправаджаць мяне. Магчыма, што жывёла разумее людскую мову толькі ў калядны вечар, а ў іншы час то можа нават яе і не чуе. Так той мой выпадковы праваднік праводзіць мяне аж да Парцава. А там невялічкі сабачка голасна аб'яўляе добрую навіну і мой спадарожнік астаецца ў тамашняй сабачай кампаніі.

За Парцавам у напрамку Бельска асфальтоўка. Некалькі гадоў таму тамашні пажылы мужчына расказваў мне, што да вайны была там вымашчаная балотам дарога, якую фурманкі абміналі полем, таксама раз'язджаючы яго. Паабапал дарогі стаяла некалькі драўляных крыжоў, якія людзі пассякалі, бо не мелі чым паліць у печах. Цяпер на той дарозе толькі асфальт. Ёсць і прыдарожны цэментны крыж, які, як мне здаецца, размяжоўвае парцаўскія і галавескія палі. Дарога здаецца быць павятовага рангу, таму зімою той асфальт пасыпаны адпаведнай хіміяй дзеля растаплення коўзкага спрасаванага снегу. Не ўся коўзанка распушчана, месцамі на шашы між праезджанымі каляінамі ляжаць доўгія грабяні мокрага снегу. Дарогай ездзіць шмат самаходаў, таму саступаю ім месца, пераходзячы з аднаго боку шашы на другі, быццам „гусей ганяючы", быццам пятляючыся ад краю да краю дарогі пасля запойнага застолля ў зорнай кампаніі. Ну і шафёры таксама, калі ёсць такая магчымасць, з'язджаюць, каб і пешаходу было выгадней. Але ж вось адна машына паехала коламі акурат па тым балоцістым грэбені снегавога балота, абліваючы мяне такім адмысловым фантанам. Ну, сцэна быццам з нейкай камедыі з удзелам Чарлі Чапліна ці Луі дэ Фюна, або з польскага хіта „Sami swoi". Толькі смяяцца — шафёру, не мне. Парафразуючы пачутае раней можна сказаць: «Мабільны калектыў — гальштукі вяжа і балотам мажа». Хаця мне не надта вялікая крыўда ад гэтага, бо abліты па сутнасці вадою і істотных плям на вопратцы не будзе, будзе затое нагода ўкінуць яе ў пральную машыну...

За мастком, што між Парцавам і фермай, насупраць мяне спыняецца легкавушка. Маладыя пасажыры запрашаюць мяне ў салон аўтамабіля, але я адмаўляюся, бо ж хіба з калекцыяй мясцовага балота на вопратцы не палезу ў элегантны аўтамабільны салон; да таго ж яшчэ ахвота пабачыць, ідучы пяшком, яшчэ нешта цікавае. Машына ад'язджае, а я заўважаю, што на ёй варшаўская рэгістрацыя. Падумалася б, што тыя варшавякі, не маючы што рабіць, у рамках кайфу мясцовай экзотыкай рашылі падчапіць нейкага мужыка, што пятляецца пяшком па зімовай дарозе. Апошнія ж машыны, што мчаліся ў напрамку Бельска і ўсе мелі „тутэйшую" рэгістрацыю з лацінскай літарай „B" наперадзе, не пацікавіліся такою „прозай". Мабыць, наш аўтамабільны народ спяшаў напярэдадні каляды рыхтаваць багатае поснае застолле, з асобнай талеркай для выпадковага госця, каб паразважаць пра дабрыню нашага тутэйшага насельніцтва. Пра госця ў самаход разважаць не выпадае, бо ж у легкавушку талеркі, нават пустой, не паставіш...

Калісь, калі простыя людзі яшчэ ездзілі коннымі фурманкамі, была звычка запрашаць падарожнага пешахода на воз. Праўда, і тады ўжо калясілі па нашых дарогах легкавушкі, але ездзілі ў іх важныя паны, якія мужыкоў, вядома, не запрашалі ў свае салоны. А зараз амаль усе нашчадкі нашых даўніх мужыкоў таксама распанелі і абзавяліся панскай ментальнасцю. Гэта таксама і свайго роду прагрэс, і захоўванне традыцыі — панскай...

Можна сабе падумаць, што тая лацінская літарка „B" абазначае сорт тутэйшай тэрыторыі, нашу Польшчу-Б. Абазначае нашу вельмі ўсходнюю ментальнасць, з маскоўскім асадкам, дзе няма высакапанскай цікавасці шэраговым чалавекам. Тое ж самае можна сказаць і пра наша чыгуначнае чынавенства, якому публічным транспартам для таго ж шэрага чалавека няма вялікай ахвоты займацца. *Każdy sobie rzepkę skrobie*. Абы сабе была выгада, пракаўзнуўшыся бліжэй царскіх салонаў, элегантных.

У Бельску на разгалінаванні вуліц Белавежскай і Баторыя асаблівы дарожны знак пешаходу. Ён не са стандарту дарожнага кодэкса. Ён ляжыць на зямлі — гэта тратуар. Ён толькі на вуліцы Баторыя, быццам падказвае не хадзіць у напрамку чыгуначнага вакзала, толькі ў напрамку гарадскога цэнтра. Падпарадкоўваюся гэтай мудрай падказцы. На прыпынку насупраць ратушы астаецца мне амаль паўгадзіны часу. Заходжу ў недалёкі магазін. У Бельску, як мне здаецца, усе ўсіх ведаюць — хто які і адкуль. „Тутэйшыя" віншуюць сябе па-гарадскому з наступаючым святам...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## З'явіўся рэгулярны рэйс Берасце-Беласток

Адкрыццё новага міжнароднага маршрута Берасце-Беласток анансавана на афіцыйнай інтэрнэт-старонцы Берасцейскага аўтобуснага парка. Першы рэгулярны рэйс у Падляшскае ваяводства і назад ужо адбыўся 9 студзеня. Жыхары памежжа станоўча ставяцца як да спрашчэння візавага рэжыму, так і да палягчэння транспартнага спалучэння між краінамі-суседкамі:

— Найважнейшае, каб дзве грамадскія супольнасці мелі лепшыя дачыненні. Гэта паляпшэнне пераезду мяжы. Але мы хацелі б, каб і з польскага боку замест ліквідацыі магчымасці атрымаць візы зрабілі нейкую палёгку, каб беларусы не мусілі плаціць такія вялікія грошы. Кошт квітка з Берасця каштуе 16 беларускіх рублёў, а выезд ажыццяўляецца ў 05:00 па беларускім часе. У зваротным кірунку аўтобус выязджае ў той самы дзень у 12:40 па польскім часе. Курсуе транспарт па панядзелках, серадах, пятніцах і на выходных. Гэта не першая спроба злучыць Берасце і Беласток наўпроставым рэйсам, адлегласць паміж якімі каля 140 кіламетраў. Раней, каб дабрацца з аднаго горада ў іншы грамадскім транспартам, патрэбна была перасадка ў Гародні, Белай-Падляшскай альбо ў Варшаве.

**Беларускае Радыё Рацыя, Берасце**

## Чыжоўская дэмаграфія

Чыжоўская гміна Гайнаўскага павета займае плошчу ў 134 квадратныя кіламетры. Мяжуе яна з Арлянскай, Гайнаўскай, Дубіцкай і Нарваўскай гмінамі. У гэтай гміне шчыльнасць насельніцтва складае 15 чалавек на квадратны кіламетр.

У 1995 годзе ў Чыжоўскай гміне пражывала 3500 чалавек, у 2005 годзе — 2528, у 2016 годзе — 2195 і ў 2017 годзе — 2087. У гміне 21 мясцовасць. Колькасць жыхароў з кожным годам памяншаецца. У ёй ёсць шэсць даволі вялікіх вёсак: Клейнікі (396 жыхароў), Чыжы (335), Курашава (267), Збуч (159), Мора (147) і Койлы — (139). Больш 50 жыхароў налічваюць Падрэчаны — 83, Асоўка — 82, Лянева — 73, Шастакова — 69, Ракавічы — 61 і Гукавічы — 57. Невялікія вёскі гэта Камень — у ёй 47 жыхароў, Ляды — 38, Лушчы — 33, Ляшчыны — 31, Сапава — 29 і Максімоўшчына — 16. Найменшыя тут тры вёсачкі Вежанка, Падвежанка і Вулька — у кожнай з іх па восем жыхароў.

У 2018 годзе памятныя медалі „За шматгадовае шлюбнае жыццё", прысвоеныя прэзідэнтам РП, атрымала дванаццаць шлюбных пар з Гукавіч, Каменя, Клейнік, Койлаў, Курашава, Лушчоў, Лянева, Падрэчан, Ракавіч і Чыжоў. Зараз у вёсках Чыжоўскай гміны жывуць амаль толькі пажылыя людзі. Ёсць стагадовая жанчына — Марыя Грыгарук з вёскі Ляды. **(яц)**

Наша сям'я сардэчна дзякуе Усім, хто прыйшоў развітацца са **Светлай Памяці Юркам Туронкам** 10 студзеня 2019 года ў Варшаве. Дзякуючы Вам пахаванне мела вельмі ўрачысты і дастойны характар, а словы, якія мы пачулі ад Сп. Лены Глагоўскай і Сп. Яўгена Вапы назаўсёды астануцца ў нашай памяці.

**Са шчырай падзякай**
Зіна Туронак
з дочкамі і ўнукам

# Тры пакаленні ў адной прыгожай традыцыі

Каля трыста чалавек выспявала са сцэны добрую навіну аб нараджэнні Хрыстовым. Дваццаць два калектывы з цэлага Падляшша сустрэлася на супольным калядаванні. Васямнаццаты раз у Беластоку прайшло мерапрыемства «Гвязда і калядка». На сцэне гарнізоннага клуба ў Беластоку прэзентаваліся каляднікі ад дашкольнага ўзросту па самых пажылых выканаўцаў. Гэтае мерапрыемства спалучае пакаленні ў адной прыгожай традыцыі.



— Пачынаецца асаблівае, вельмі важнае мерапрыемства, — сказаў у прывітальным слове віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень. — Асаблівае тым, што яно звязанае з пэўным пачаткам — з пачаткам Новага года, са святам Раства Хрыстовага, з нараджэннем Усявышняга, што для кожнага хрысціяніна, кожнага чалавека нясе новыя мары, новы пачатак — сімвалічны пачатак нашага чалавечага жыцця.



На XX Фестываль «Гвязда і калядка», які прайшоў 13 студзеня, удзельнікі з'ехалі з усяго ваяводства, між іншым, Гайнаўкі, Бельска, Нарвы, Гарадка ці Маліннік. Людміла Сегень, настаўніца беларускай мовы з пачатковай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку падрыхтавала дзяцей, якія не толькі заспявалі калядкі, але таксама паказалі кароткую пастаноўку пра свята Раджджаства.

— Вучні любяць святочны перыяд і таксама любяць спяваць калядкі. Яны апошнім часам толькі гэтым займаліся. Клапаціліся як апрануцца, каб паказаць постаць, якую граюць. Вельмі ахвотна рыхтаваліся, нават за вушы не адцягнуць!



Гледзячы на колькасць дзяцей і моладзі, якія прынялі ўдзел у фестывалі, складаецца ўражанне, што традыцыя супольнага калядавання ажывае сярод маладога пакалення, у любым выпадку зараз з гэтай справай лепш, чым некалькі гадоў таму.

— Звычай калядавання гэта не толькі дарослыя, але і дзеці, — сказаў Васіль Сегень. — Калі ён яшчэ быў больш жывы ў такім натуральным выглядзе падчас Раства Хрыстовага, тады ў асноўным дзеткі хадзілі па хатах і калядавалі. Сёлета на нашай сцэне таксама іх не будзе бракаваць.

Мовазнаўца Васіль Сегень дадаў, што менавіта маладое пакаленне таксама паўплывае на сучасны выгляд фестывалю.

— «Гвязда і калядка» таксама мяняецца. Калісьці, калі па вёсках хадзілі каляднікі, яны спявалі песні на цікавай мове, але нетыповай, — тлумачыць Васіль Сегень. — Асноўнай была калядка на старабеларускай мове з рысамі той гаворкі, адкуль людзі самі родам. І вось менавіта на такой мове раней спявалі калядкі. Зараз паяўляецца гэтых калядак на літаратурных мовах усё болей, я маю на ўвазе беларускую ці ўкраінскую літаратурныя мовы. Вось гэта асноўная змена, калі гаворка ідзе пра змены ў самым абрадзе, звычаі калядавання.

Як бачна, у калядаванні ўмеюць знайсці сябе старэйшыя, больш традыцыйныя, і маладыя. Варта выкарыстоўваць гэты трэнд з мэтай інтэграцыі беларускай супольнасці. Музыка не толькі спалучае пакаленні, але і служыць умацаванню сувязей і спрыяе перадачы ўзораў.

— Я яшчэ памятаю даваеннае калядаванне! Я таксама каляднік, — паганарыўся Пятро Нічыпарук з гурту «Малінкі».— Мы калісьці не заходзілі ў хаты, толькі пад вокнамі спявалі. Ну, але калісьці іншыя хаты былі! А тут на фестываль прыязджаю... хіба з самага пачатку. Я жыву на хутары, але штогод заходзяць да мяне каляднікі.



Васіль Сегень

Чарговы раз поўная зала людзей гарнізоннага клуба даказала, што калядаванне аб'ядноўвае людзей. Яно ўплывае не толькі на выступоўцаў, харыстаў, але і аўдыторыю. Для прыкладу на бацькоў, якія суправаджаюць сваіх дзяцей. Публічнасць на калядным музычным мерапрыемстве заўсёды выдатная. Напэўна таму віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень пераказаў ёй такія прыгожыя пажаданні: «Хацелася б вам з гэтай нагоды, з нагоды Раства Хрыстовага, Новага года пажадаць усяго самага найлепшага. Хай вашы мары, вашы надзеі апраўдваюцца, спаўняюцца і Усявышні, лёс і добрыя людзі дапамагаюць Вам здзяйсняць вашы планы і вашы мары».

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# Рабаванне Чорнай-Вялікай



З лом студзеня і лютага ў нашай грамадскасці гэта балючы час памяці пра трагічныя падзеі, якія ў 1946 годзе спасціглі беларускія праваслаўныя вёскі з рук польскага ўзброенага падполля. Семдзесят два гады таму на тэрыторыю тадышняга Бельскага павета з'явіўся атрад, якім камандаваў капітан Рамуальд Райс, псеўданім «Буры». Жаўнеры прыйшлі з паўднёвага напрамку 21 студзеня 1946 года, пераправіўшыся праз раку Нурэц паміж вёскамі Зашкуў (цяпер у гміне Нур) і Вайтковіцы-Дады (зараз у гміне Цехановец). Мэтай іх прыходу на паўднёва-ўсходнюю Бельшчыну было прадэманстраваць сілу атрада і запалохаць беларускае насельніцтва.

Перад трагічнымі падзеямі, якія пачаліся 28 студзеня ў Лозіцах і закончыліся 2 лютага 1946 года ў Шпаках, Занях і Канцавізне, тры дні раней адбылося рабаванне вёскі Чорная-Вялікая. Напярэдадні грабяжу атрад «Бурага» перамясціўся з вёскі Глоды (гміна Перляева) у раён Дзядковіч, Зарэмбаў і Кажанёўкі, дзе і спыніўся. На другі дзень пасля абеду атрад адправіўся ў суседнюю «рускую» вёску — у Чорную-Вялікую, дзе пераважную колькасць насельніцтва складалі праваслаўныя (паводле перапісу насельніцтва 1921 г. вёска налічвала 343 чалавек, у ліку якіх 301 жыхар складалі праваслаўныя). Распаложаная пры дарозе з Дзядковіч у Гродзіск вёска-вуліцоўка цягнецца на адлегласці двух кіламетраў і налічвала тады больш за 70 дамоў. Ад усходу мяжуе з вёскай Зарэмбы, ад захаду — з Александровам.

* * *

Была пятніца, 25 студзеня 1946 года. Сяляне завіхаліся на панадворках, займаліся тыповымі для зімовай пары сельскагаспадарчымі працамі. Некаторыя малацілі, іншыя рэзалі сечку, seклі дровы. На адвячорку з лесу з боку Зарэмбаў выйшаў атрад узброенага войска. Перад вёскай жаўнеры разышліся на два бакі і пайшлі загуменнымі дарогамі на канец вёскі. На вясковую вуліцу ўвайшлі з боку Александрова і сталі шнырыць па панадворках паасобных праваслаўных сялян. Жаўнеры рэквізавалі коней і вазы, на якія грузілі зрабаваныя свінні, кажухі, вопратку. Даследчыкі пішуць, што ў гэты дзень жаўнеры «Бурага» забралі ў вёсцы 18 коней і вазоў, 15 вепрукоў, 80 кажухоў і вопратку.

А вось як гэты дзень запомніўся відавочцам:

**Ян Луба**, 1930 года нараджэння:

— Мы тады рэзалі сечку. Я паганяў у манежы двухгадовую жаробку, буланку. Было гэта на адвячорку, пэўна каля другой гадзіны. Мы жылі на пачатку вёскі, у хаце нумар 7. Бачу, ідуць тры роты ад Дзядковіч, з боку Зарэмбаў. У вайсковай форме — шапкі-рагатыўкі, плашчы, з вінтоўкамі. Калі дайшлі да вёскі, тады раздзяліліся і пайшлі загуменнямі на канец вёскі і пачалі рабаваць гаспадароў.

**Аляксандр Войцюк**, 1935 года нараджэння:

— У той дзень мы малацілі авёс. Малатарню ў рух прыводзіў манеж, запрэжаны ў двое коней, якіх я паганяў. Воз, які звычайна стаяў у стадоле, тады на час малацьбы выцягнулі мы на панадворак. Жаўнеры ўкінулі на воз аўсяную салому, загадалі бацьку запрэгчы аднаго каня ў воз і ехаць з імі на пачатак вёскі. Там жаўнеры перанялі вазы і самі ад'ехалі на ўсход у напрамку вёскі Зарэмбы. Бацька вярнуўся дахаты з адным батагом.

**Аляксандр Дработка**, 1934 года нараджэння:

— Мы малацілі. Я ў манежы ганяў коней. Увайшлі на панадворак, спынілі ўсю работу. Мне загадалі выцягнуць воз. А я ж яшчэ дзіця быў, не даў рады, перавярнуўся, то атрымаў прыкладам вінтоўкі па спіне. Адразу адну кабылу запрэглі ў воз і пайшлі ў хлеў страляць свіней. Застрэлілі два або тры вепрукі, паклалі на воз і пад'ехалі пад хату. Праз вёску ішло двое дзяўчат, якія ў мясцовай краўчыхі вучыліся шыццю. Запынілі іх і прыгналі да нас. Усіх хатніх, апрача бацькі, разам з тымі дзяўчатамі зачынілі ў каморцы і загадалі не выходзіць, толькі чакаць. У хату заходзілі сем разоў і выносілі кажухі, вопратку, усё, нават чыгунок са шмальцам. У сясцёр шкарпэткі з ног сцягнулі. Агалілі нашчэнт. Мы баяліся, што падпаляць хату і мы згарым. Я знайшоў нейкую жалязяку і пры ёй дапамозе зняў дзверы з крукоў і выйшлі вонкі. Бацькі ўжо не было. Загадалі яму ехаць з імі. Пазней бацька вярнуўся сам.

**Ян Луба:** — Прыйшлі да нас, калі ўжо цямнела, і пытаюцца пра каня, які хадзіў у манежы. Я кажу, што ў хляве. Тады адзін з іх кажа запрэгчы яго ў воз. Я стаў тлумачыць, што жаробку яшчэ ў воз не запрагалі, толькі ў манеж, каб прывучыць. Махнуў рукою. Пайшлі ў хлеў і застрэлілі свінчо. Зайшлі ў хату. Мой старэйшы брат Канстанцін займаўся кушнерствам. У хаце былі два новыя, толькі што пашытыя на заказ кажухі і выробленыя авечыя шкуры ад заказчыкаў. Забралі і кажухі, і шкуры. Забралі тады ў вёсцы 16 вазоў і 18 коней. Усе шаснаццаць гаспадароў прывялі свае фурманкі на пачатак вёскі. Тады загадалі фурманам сабрацца ў Юзіка Карнілюка, у першай хаце з боку Зарэмбаў, і чакаць гадзіну, пакуль прывядуць назад коней. Вядома было, што коні і вазы страчаны, а абяцанне аб вяртанні коней гэта толькі зацягванне часу. Калі атрад адышоў за лес, а на двары стала цёмна, мужыкі разышліся дамоў.

* * *

На шасце падчас рабавання ніхто з жыхароў не страціў жыцця, не згарэла ніводная хата, ні халодны будынак. Кажуць толькі, што згвалтавалі 19-гадовую дзяўчыну. Якая была рэакцыя людзей? Ці на другі дзень афіцыйныя ўлады зацікавіліся нападзеннем?

**Аляксандр Дработка:** — Не ведаю як было на вёсцы, але ў нас не гвалтавалі. Сярод зачыненых у каморцы былі мае старэйшыя сёстры і дзяўчаты, якія ішлі да краўчыхі. Не чапалі іх, толькі сёстрам сцягнулі шкарпэткі з ног.

**Ян Луба:** — Не, я такога не чуў. Калі такое і было, то аб гэтым не гаварылі — гэта ж для жанчыны такі сорам. Як паводзілі сябе людзі? Баяліся гаварыць голасна. Калі сышліся суседзі, то пагаварылі паціху аб здарыўшымся. Ніякае УБ, ні КБВ не прыязджала, ніякага следства не было. Абрабаваным сялянам трэба было самім кампенсаваць страты.

**Аляксандр Дработка:** — Наша кабыла аказалася ў Кажанёўцы. Сказаў гэта бацьку адзін чалавек з Зарэмбаў. Пазней бацька бачыў сваю кабылу ў Сямятычах. Калі паспакайнела, а яны былі свядомы, што бацька ведае пра кабылу, адправілі яе дзесьці далей.

* * *

З нарабаваным у Чорнай-Вялікай дабром атрад «Бурага» пайшоў на ўсход — праз Зарэмбы і Кажанёўку дайшоў да Валкаў, на другі дзень быў у Аўгустынцы і Нурцы-Станцы, каб дзень пазней дайсці ў наваколле Лозіцаў. Адтуль пачаўся крывавы рэйд атрада «Бурага», у выніку якога загінула 87 мірных праваслаўных беларусаў, у тым ліку жанчыны і дзеці.

Для жыхароў Чорнай-Вялікай надалей не было спакою. Яшчэ некалькі гадоў з душою ў пятках чакалі надыходу вечара і ночы. Тады найчасцей наведваліся звычайныя рабаўнікі, часта з недалёкіх вёсак, якія прыкідваліся «войскам польскім», нярэдка ў шапках-рагатыўках з кукардамі з выявай арла, але заўсёды са зброяй у руках.

Віталь ЛУБА

## Мы з „Нівай"

Беларускі штотыднёвік „Ніва" ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета мае шмат чытачоў. У гэтым заслуга, між іншым, працаўнікоў тамашняй пошты і новаляўкоўскага карэспандэнта гэтага часопіса. Некалькі соцень экземпляраў „Нівы" з беларускім календаром на 2019 год прыслалі на пошту ў Нараўку. Па 100 экземпляраў узялі лістаношы, 100 затрымалі на пошце. Пісьманосец Юрый Дрозд да 10 студзеня гэтага года прадаў 110 экземпляраў. Мае ён дамоўлены заказ яшчэ на тры. На пошце ёсць у продажы 50 экземпляраў. Карэспандэнт прадаў 30 экземпляраў і далей намераны давезці „Ніву" да чытача. Зараз снежная зіма (быў і неблагі мароз) і не ўсюды можа даехаць на сваім двухколавым сродку транспарту — ровары. Але ж не такія перашкоды я пераадолеў. Неўзабаве паеду ў Новіны. У гэтай вёсачцы жыве наш пастаянны чытач Канстанцін Ярошук.

У дзвюх крамах ГС і ў краме „Аргелян" у Нараўцы ўсю „Ніву" з календаром на Новы год выкупілі. У іх купілі таксама ўсе прывезеныя сюды экземпляры „Нівы" № 1 і № 2 ад 6 і 13 студзеня гэтага года.

Маю весткі ад нашай пастаяннай чытачкі, як ідзе продаж нашай роднай газеты з календаром на 2019 год у бальніцы ў Гайнаўцы. Тут у бары (ён на другім паверсе) прадалі 100 экземпляраў і 120 маюць яшчэ ў продажы, а ў кіёску на першым паверсе (ён ля галоўнага ўвахода ў шпіталь) прадалі 110 экземпляраў і засталося яшчэ 10 і іх купяць. Наш беларускі часопіс тут на віду. Тут кожны дзень многа людзей. Яны прыязджаюць і прыходзяць да лекараў. Вялікі рух ад раніцы да вечара. Прывезеныя з Беластока „Нівы" ад 6 і 13 студзеня г. г. кіяскёрка прадала ўсе.

Дзякуючы „Ніве" мы не забываем і не забудзем сваёй роднай мовы. Яна для нас, беларусаў, неабходная. Ёсць чытачы звязаныя з беларускім часопісам ад самага пачатку яго існавання і нямала іх. „Ніву" трэба купляць і чытаць.

**Янка Целушэцкі**




## Патрэбны дарожныя ўказальнікі

Вёска Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета мае дамы на гэтак званых калёніях. Ад ваяводскай або павятовай дарогі нялёгка трапіць да іх. Як тады маюць хутка даехаць пажарнікі або хуткая дапамога да хворага. Першнаперш ноччу. Патрэбны ўказальнікі.

У пачатку вёскі стаіць дарожны ўказальнік з нумарамі дамоў 98, 99 і 100. Паставіла яго гміна. Ды вось мы едзем да гэтых дамоў і даехалі да лесу Плянта. Крыху ўглыб яго ёсць скрыжаванне чатырох дарог (дзве вядуць толькі ў лес ды на сенажаці і да колішняга чыгуначнага вакзала). У якую дарогу ехаць далей? Тут трэба паставіць указальнік.

Тамашнім жыхарам гэтая справа вядомая не ад сёння. Яны ўсё збіраюцца паставіць тут указальнік, але толькі ніяк за гэта не возьмуцца. І так ад вясны да зімы і зноў няма калі. Гэта жыхары ў сярэднім узросце ды сталяры. А зімой, калі завіруха насыпле снегу, асабліва цяжка трапіць да гэтых жыхароў на далёкай калёніі. Чаму ім не паклапаціцца пра ўказальнік на раздарожжы? **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Беларускія танцы для Святочнага аркестра!



Фота Яраслава Пруса

Як кожны год мы з радасцю прывіталі Вялікі аркестр святочнай дапамогі. 27 выпуск сёлета праходзіў 13 студзеня, у апошні дзень старога года па юліянскім календары. Праваслаўныя жыхары Беластока рыхтаваліся да Багатага вечара. Шмат з іх шпацыравала вуліцамі горада і прыемна праводзіла час. Пад ратушай, дзе знаходзіўся цэнтр аркестра, гудзела ад спеваў і музыкі. Пажарнікі і медычныя ратаўнікі паказвалі свае штучкі і ўмеласці. Усюды было поўна дзяцей. Для мяне сэрцайка наклеіла пяцігадовая Аліўка, якая разам з мамай і старэйшай сястрой збіралі грошы. Сярод валанцёраў я сустрэла пляменніцу Агнешку, якая з часоў гімназіі дапамагае аркестру.

— Сёлета людзі надзвычай шчодрыя, — пахваліла яна беластачан. — Менш як 20 злотых не кідаюць у скарбонку.

Цікава, што ахвяравальнікі самі шукалі валанцёраў, якія зусім не навязваліся са сваімі скарбонкамі. Многія, як я, спецыяльна паехалі ў цэнтр, каб іх адшукаць і аказаць дапамогу. Сярод валанцёраў мы сустрэлі таксама ліцэістку Вераніку, незабыўную аўтарку «Зоркі». Віка збірала грошы разам са сваім татам. Іх прамяністыя ўсмешкі цудоўна ацяплялі хмурнае і дажджлівае надвор’е. Таксама шмат радасці прынеслі беластоцкія дзеці з танцавальнага ансамбля «Падляшскі вянок», якія для аркестра падарылі свае танцы.

Брава, сябры!

За год зноў выйдзем падтрымаць Вялікі аркестр, які ратуе жыццё тысячам дзяцей і дарослым і застаўляе верыць у дабрыню чалавека.

(гак)




**Наталля КІНДЗЮК**
Лешукі, ПШ у Нараўцы,
ІІІ месца ў конкурсе «Дэб’ют»

## Вучань

Вучань – як зерне,
Вырастае,
Развівае свае кветкі.
З іх калісьці будзе садавіна.
Але калі будзеш збіраць плады,
Звяне і будзе кусочкам зямлі.



## Ліст

Ліст на дрэве,
Чалавек на зямлі.
Ліст каляровы,
Чалавек вясёлы.
Ліст чорны,
Чалавек нягодны.
Ліст ападае,
Чалавек лятае.
І толькі тым адрозніваемся,
Што лісток ападае,
а чалавек памірае.

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Платон і слонік

Аддаў слон на навуку сына да самога Платона. Каб ён навучыўся філасофіі.

У час першага ўрока Платон загадаў слоніку падкурчыць ногі і акуратна сесці за партай. Вучань ніяк не мог справіцца з задачай.

Ну, годзе! Можа пашанцуе далей?

А другая задача, такая. Платон прыказаў новаму вучню, каб ён выйшаў на сярэдзіну і прыгожа пакланіўся аўдыторыі.

Што не рабіў малы — ніяк не выходзіла.

Вярнуў Платон слоніка бацьку і кажа:

— Для твайго сына месца ў царскім палацы, а не ў маёй школе.

— Чаму вы, шаноўны, такое мяркуеце?

— Тут адказ просты, — пачаў філосаф. — Мае вучні, перш чым пачнуць навуку, спачатку абавязаны сесці за парту і пакорна схіліць галовы. Ваш не жадае падкурчыць ногі і пакланяцца.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## УВАГА КОНКУРС! № 03-19

**У якой пярыне зайчык не прастыне? Ля якой падушкі ён пагрэе вушкі? С...**

**(Д. Бічэль)**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 3 лютага 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 51: лядзяш. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Патрыцыя Нявінская, Вікторыя Залеўская, Дам’ян Даліна-Суліма з Орлі, Наталля Гайдук, Аляксандра Бакун з ПШ № 1 ў Гайнаўцы. Віншуем!**

# Слуцкія паясы

Сёння ўнікальная маляванка — тканіна, прыдуманая ў часы Вялікага Княства Літоўскага, якая прыдавала прэстыж і славу ўласніку, яго сям'і, кампаніі. Тканы пояс быў пажаданым элементам мужчынскага ўбору. Ім перавязвалі жупан з не менш каштоўнага і адмысловага матэрыялу.

Паясы насілі толькі багатыя шляхціцы і вяльможы.

Адкуль такая назва? — падумаеце.

Ад месца іх вытворчасці. Самая вядомая мануфактура шаўковых паясоў знаходзілася ў Слуцку. Насуперак вершу Максіма Багдановіча, паясы ткалі толькі мужчыны, таму што працэс ткацтва патрабаваў вялікай сілы. Вакол рамяства паўстала многа забабонаў і павер'яў. Лічылі, напрыклад, што нельга да ткацкага станка дапускаць жанчын, бо калі такая гляне, суровчыць тканіну і ўсе сярэбраныя ніткі пацямнеюць.

Такі сексісцкі падыход сёння здаецца дзікім і недарэчным, але ў мінулым падобныя павер'і дапамагалі зберагчы тайны каштоўнага рамяства...

**(гак)**




Максім БАГДАНОВІЧ

## Слуцкія ткачыхі

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна, —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам зззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бора...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

**Эрыка ІВАНОВА**
*Міхалова*

## Мова

Ва ўсім свеце многа моў.
Можна гаварыць і гаварыць,
На англійскай, на французскай,
на рускай мове,
Але ж мне найпрыгажэй
– на беларускай мове.

# Польска-беларуская крыжаванка № 03-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 51-2018:**

Сто, заяц, навой, брыз, Ніл, калядка, елка, вол, астрог, казка, край, акорд. Павук, каб, яр, елка, цыкл, ай, заказ, Ян, ласка, Аня, так, свідар, толк, ой, год.

Узнагароды, **наклейкі,** выйгралі **Дам'ян Грэсь, Кася Жданюк, Адрыян Мойсак** з Залук, **Малгося Селіванюк** з ПШ № 4 у Гайнаўцы, **Павел Пахвіцэвіч** з Орлі, **Магда Якубюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Куба Авярчук, Антаніна Варанчук** з Арэшкава, **Матвей Зыскоўскі, Аляксандра Бакун** з ПШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Nos | Ach! | | | Niebo | | Siak / Nasyp | Jadlina | Jan | | | Spacer |
| | | | Norka | | | | | Mnich | | | |
| | Węch | Kiedyś / Lew | | | | | | | Kosz / Ikona | No | |
| | Czoło / Port | | | | Niania / Sikorka | | | | | | |
| Przerwa | | | | | | | | | | Sęk | |
| | | | | | Pokosy | | | | | | |
| Wilk | | Sto | | | | | | Nur | | | |
| | | | Wtorek | | | | | | | | |

# Вайна вачамі радавога Чырвонай Арміі

Выдатны беларускі пісьменнік Васіль Быкаў, таксама салдат часоў Другой сусветнай вайны, прачытаўшы рукапіс кнігі Нікалая Нікуліна «Салдат», напісаў аўтару: *«Няпростая гэта кніга. Вы выкінулі з сябе ўсё, прычыненае страшэннай вайной, якая памалу становіцца забытай. Нямнога засталося верных яе страшэннай памяці і тым большая павінна быць удзячнасць для тых, хто намагаецца данесці да нас праўды аб яе. Чытаў я Ваш рукапіс з жалем, што пакуль ён не выдадзены. Але ці можна яго выдаць? Яшчэ нядаўна такія рукапісы не вярталі аўтарам. Траплялі ў КДБ. А сёння каму гэта патрэбнае? Разам з адыходам апошняга — таксама памрэ Праўда. Нашы ветэраны стараюцца перш за ўсё схаваць праўду, заступіць яе апавяданнямі аб тым, якімі яны былі героямі. Яны ўпісваюцца ў раздзьмуты вобраз і не дазваляюць яго разбурыць. Нідзе няма такіх цудоўных ветэранаў, як у нашым радзімым, любімым Савецкім Саюзе».*




Аўтар кнігі «Салдат» Нікалай Нікулін яшчэ ў 1975 годзе падчас водпуску на Балтыйскім моры спісаў свае ваенныя ўспаміны. Аднак кніга з'явілася толькі ў 2008 годзе, дарэчы, пасля перакладаў на некалькі моў (польскі выйшаў у 2013 годзе). Пішучы свае ўспаміны, аўтар падкрэсліў, што гэта шчырыя адчуванні радавога салдата, што ва ўспамінах няма ніякага пафасу ў стылі сацыялістычнага рэалізму, такога як напрыклад у Канстанціна Сіманова ці Міхаіла Шолахава, якіх ваенныя раманы гэта звычайная агітацыя за савецкай арміяй. Нікалай Нікулін у прадмове да кнігі адзначыў наступнае: «Мае запісы гэта спроба вызваліцца ад мінулага. Падобна як на Захадзе людзі ідуць да псіхатэрапеўта, у якога пакідаюць свой неспакой, тайны ў надзеі, што паздаравеюць, так і я сеў ды напісаў, каб з куткоў памяці выцягнуць подласць, нахабства і зло, каб уцячы ад вобразаў вайны, якія мяне прыгнятаюць. Мабыць, мая спроба — безнадзейная... Успаміны я пісаў толькі выключна для сябе і таму яны вельмі асабістыя і крайне суб'ектыўныя, а не аб'ектыўныя, бо ў вайну я быў вельмі маладым, амаль дзіцём, без ніякага жыццёвага вопыту».

Псеўдагероі-аўтары былі ў тыле фронту і яны ў большай ступені аглядалі вайну, чым насамрэч яе перажылі, а яшчэ хапала ім сумлення хваліцца, што яны яе перажылі! У нямецкай арміі тыл быў у найбольшай пагардзе, таму што найменш пацярпеў, а ў саветаў тылавікі лічыліся найбольшымі героямі. Нікалай Нікулін, хаця змагаўся на першай лініі фронту, піша без пафасу і расхвальвання, а на рэальных прыкладах даказвае пераважлічаную пафаснасць велічыні перамогі. Напрыклад Ноўгарад, які ў савецкіх фільмах прадстаўляецца як крывавая бітва савецкай арміі за горад, насамрэч рускія занялі без аніводнага выстралу, бо ўсе немцы раней уцяклі. Паказвае часта, як вельмі многа маладых рускіх салдат без зброі, з пустымі рукамі ішлі на нямецкую армію, а з атрада, які налічваў 181 салдат, засталося пры жыцці восем чалавек, у тым ліку аўтар. Як сам прызнаецца, меў ён вялікае шчасце, каб дажыць да нашых часоў і апісаць нам усё ў сваёй кнізе. Факт, некалькі разоў быў ранены, але прайшоўшы баявы шлях з Ленінграда да Берліна, дамоў вярнуўся здаровы. Калі просты радавы савецкі салдат быў галодны, стомлены, нявыспаны і часта кожны яго новы дзень жыцця мог быць апошнім днём у жыцці, дык савецкія генералы, афіцэры заўсёды выбіралі найпрыгажэйшых дзяўчат на франтавых жонак, елі і пілі, што хацелі, а радавыя салдаты галадалі і ўвесь час чакала іх смерць або хвароба. Вайна гэта справа для мужчын — адзначае аўтар — хаця многа было на вайне прыкладаў геразіму таксама сярод жанчын. Аўтар не лічыць сябе героем і прыгадвае, што франтавыя сябры глядзелі на яго касым вокам, лічылі, што ён звычайна не надаецца на вайну. Аднак Нікалай Нікулін выжыў і адзначае, што на вайне меў больш шчасця чым адвагі, што часта кулі, якія мелі ў яго папасці, лавіў сам Бог. Не раз мусіў перамагаць страх, боль, смерць, голад. Часта мусіў перамагаць звычайную агіду, калі кроў або мозг мёртвага сябра залівала яго твар.

У прынцыпе на вайне бываюць трагічныя здарэнні, але былі і смешныя моманты. Калі аўтар быў сяржантам, палкоўнік загадаў яму і падначаленым яму салдатам выкапаць зямлянку. Аднак другія салдаты спакусілі іх добрай ежай і гарэлкай. Замест капаць зямлянку, усе наеліся і панапіваліся. Тады палкоўнік разжалаваў аўтара да звання радавога. Хаця аўтар пазней даслужыўся афіцэрскага звання, то калі пасля вайны сустракаў гэтага палкоўніка, дык той смяяўся, кажучы: «Ну вось гэты мне прапіў зямлянку». Іншым разам ноччу рускім салдатам захацелася спаць і заснулі каля незнаёмых салдат. Калі прачнуліся, аказалася, што гэта... немцы. І пачалася разня!

Найгорш на вайне мелі прыгожыя дзяўчаты. Калі прыгажуня мела раман з палкоўнікам ці генералам і ад яго зацяжарыла, дык указам № 09 адсылалі яе дамоў. А калі не згаджалася на раман з афіцэрам дык высылалі яе на першую лінію фронту і часта першай гінула.

Нікалай Нікулін падкрэслівае, што ў Другой сусветнай вайне перамог не сам Сталін, але 20 мільёнаў салдат з усіх савецкіх рэспублік, якія загінулі, а іх трупаў хапіла б вымасціць дарогу ад Масквы да Уладзівастока! Гэта на іх касцях збудаваная перамога. Затое немцы страцілі толькі 7 мільёнаў салдат, найбольш на Усходнім фронце. Паводле аўтара, савецкія камандзіры зусім не шкадавалі жыцця сваіх салдат, высылалі іх проста пад дулы нямецкіх вінтовак і кулямётаў у якасці гарматнага мяса. Затое нямецкія камандзіры стараліся, каб прапала як найменш французскіх салдат, таму што ў нямецкай арміі часта камандзірамі былі генералы, якія свой вопыт здабылі яшчэ ў перыяд Першай сусветнай вайны ў 1914-1918 гадах.

Нікалай Нікулін гаворыць, што сярод савецкіх салдат было многа маладых таленавітых людзей, якія ў час вайны складалі песні і вершы. Адным з іх быў Сяргей Арлоў, якога атрад Нікуліна ў 1944 годзе ледзь выратаваў з палаючага танка. Паэт памёр у 1977 годзе ва ўзросце 56 гадоў і да канца жыцця меў на сваім твары сляды ад апёкаў. Іншым таленавітым салдатам быў тэлефаніст Моня Глейзер з Адэсы, які не толькі спяваў прыгожым голасам, але пераймаў галасы камандзіраў і звяроў. Калі ноччу ён нудзіўся дык праз тэлефон даваў на ўсе лініі свае начныя канцэрты, якія ратавалі салдат-тэлефаністаў перад сном. Многа такіх таленавітых людзей прапала ў час вайны.

Паводле Нікалая Нікуліна на вайне найчасцей гінулі пехацінцы і танкісты, але найгоршую смерць мелі лётчыкі, калі на парашутах стралялі па іх немцы. На вайне чалавек прывыкае да смерці, калі на яго руках паміраюць тысячы сяброў-аднапалчан. Аднак калі памірае найбольшы прыяцель, з якім Нікулін сябраваў яшчэ ў даваенны час, дык з гэтым аўтар не можа пагадзіцца да канца жыцця. Вайна робіць з салдат людзей абыякавых на смерць, машын для забівання ворага. А з самых добрых людзей, а таксама зладзеяў, гвалтаўнікоў вызваляе найгоршыя рысы характару. Найбольш ад вайны пакутуюць мірныя жыхары. Страту блізкіх людзей, пажар дома, гвалт, крадзеж — усё гэта перажыло мірнае насельніцтва Нямеччыны. Да агрэсіі супраць ворага заклікалі камуністычныя агітатары — асабліва калі Чырвоная Армія заняла Нямеччыну. Аўтар падкрэслівае, што помста на мірных жыхарах Нямеччыны не верне жыцця мільёнам савецкіх салдат і мірных людзей.

Аўтар найбольшай сваёй паразай лічыць чыстае, наівннае каханне да прыгожай нямецкай дзяўчыны ў час здабыцця Сопата, з якой правёў некалькі начэй толькі на размовах пра літаратуру. Паміж імі не было сексу, толькі чыстае з'яднанне душ. Калі вяртаўся з Берліна праз Сопат, на месцы дома сям' і гэтай дзяўчыны сустрэў чужога чалавека, які расказаў пра смерць дзяўчыны. Яе згвалтавалі шэсць савецкіх танкістаў, пасля чаго яна здзейснілася самагубства — выкінулася праз акно. Тое, што не ўдалося яе абараніць, выратаваць аўтар называе сваім найбольшым паражэннем, якое перажыў у час вайны.

Кніга «Салдат» Нікалая Нікуліна разбурае стэрэатып савецкага салдата, які ў час вайны змагаецца з нахабнасцю, хамствам, злачынствамі, да якіх прычыніліся яго сябры. Калісьці мая пакойная бабуля расказала як на вячэру ў час Куцці прыйшоў да іх нямецкі салдат. Еўшы з імі вячэру, выняў фатаграфіі сваёй сям'і, жонкі і дзяцей, ды са слязамі ўспамінаў, як на яго радзіме праводзяць Каляды. «Вы — праваслаўныя, мы — пратэстанты, вы — тутэйшыя, я немец, але мы ўсе людзі» — тлумачыў нямецкі салдат маім прадзедам і маёй бабулі, якой брат таксама быў на вайне. Немцаў, як і нашых ці рускіх таксама чакалі родныя людзі, за іх маліліся каб шчасліва вярнуліся дамоў і каб урэшце закончылася зусім нікому непатрэбная вайна.

**Юрка БУЙНЮК**

Nikołaj Nikulin, *Sołdat*, Literatura Faktu PWN Wydawnictwo Karta 2013. Tłumaczenie z rosyjskiego Agnieszka Knyt.



# Непрафесійнае мастацтва на юбілейным аглядзе

**Падвядзенне вынікаў XXV Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі, які ладзіць Гайнаўскі дом культуры і адкрыццё конкурснай экспазіцыі адбыліся яшчэ ў снежні мінулага года. На мерапрыемства, якое праходзіла ў галерэі і на вялікім калідоры ГДК, прыбылі непрафесійныя мастакі, іх сямейнікі і госці.**

Старшы інструктар па справах мастацтва ГДК Зінаіда Якуць адзначыла, што 2018 год з'яўляецца юбілейным годам для гайнаўскага Агляду непрафесійнага мастацтва, які пачалі арганізаваць 25 гадоў таму. Адкрываючы агляд бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак звярнуў увагу на высокі ўзровень прэзентаваных на выставе прац і заахвочваў мастакоў з Гайнаўкі і навакольных мясцовасцей разгортваць свае ўмеласці і прымаць удзел у чарговых аглядах.

— Пачаткі Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі былі скромныя — удзельнічалі 8-10 мастакоў-аматараў. Мэта агляду — шырокая прэзентацыя аматарскай творчасці і выхоўванне таленавітых у галіне мастацтва асоб. Дзякуючы агляду вядомымі ў Гайнаўскім павеце сталі каля 50 самародных жывапісцаў, рысавальшчыкаў і скульптараў. Нашы непрафесійныя мастакі ствараюць свае работы па прызыве сэрца, цікава пераліваючы на палотны свае ўяўленні аб акружаючым свеце і перш за ўсё карыстаюцца сваім вопытам і тым, што пабачаць на іншых работах. У нашых творцаў ёсць многа цікавых ідэй, а іх працы, выкананыя рознымі тэхнікамі, вылучаюцца формай і зместам. Да юбілейнага агляду прыступіла 35 мясцовых творцаў. Цешыць нас удзел здольных мастакоў з ліку асоб з абмежаваннямі. Побач вядомых, заслужаных для нашага агляду непрафесійных мастакоў, паявіліся працы новых таленавітых аўтараў. Конкурсная выстава толькі пацвярджае, што непрафесійнае мастацтва на Гайнаўшчыне трымаецца на высокім узроўні. Нашы творцы надалей шукаюць новых тэм, разгортваюць свае здольнасці. Экспазіцыю складаюць 72 працы 33 аўтараў. Журы вылучыла іх з ліку дасланых 109 работ, — расказала старшая інструктар па справах мастацтва **Зінаіда Якуць**.

З прапановай агляду Гайнаўскі дом культуры выйшаў у 1994 годзе. Спачатку агляд непрафесійнага мастацтва быў невялікай імпрэзай, а выстаўкі работ змяшчаліся ў невялікай зале, у якой адбываюцца рэпетыцыі Студыі эстраднай песні. Пазней агляд стаў здабываць прызнанне многіх творцаў Гайнаўшчыны. Работы сталі дасылаць непрафесійныя мастакі з-па-за пушчанскага рэгіёна. На конкурсных выставах паказваліся толькі лепшыя работы. Падчас рамонту Гайнаўскага дома культуры падвядзенне вынікаў агляду і конкурсныя выставы адбываліся ў галерэі Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы. Апошняя выстава XXV Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі прэзентуецца ў доме культуры.

Вынікі працы журы конкурсу падвяла яго старшыня **Іаанна Кярсноўская**, якая сама займаецца жывапісам і графікай:

— Іншага падобнага агляду непрафесійнага мастацтва няма ў наваколлі, толькі ў Беластоку ёсць падобны. Імпрэза ў Гайнаўцы вельмі важная нашым непрафесійным творцам, паколькі маюць яны магчымасць запрэзентаваць свае навейшыя працы, а пры гэтым пазмагацца за першынство ў сваіх катэгорыях.

Дырэктар ГДК **Расціслаў Кунцэвіч** звярнуў увагу на працы, выкананыя новымі тэхнікамі. Журы вылучыла цікава выкананыя тканіны.

— Непрафесійным творцам важнае, каб на сваіх работах перадаць свае задумы і эмоцыі. Мастакі-аматары рыхтуюць працы з вялікай стараннасцю, каб паказацца з як найлепшага боку. Самая вялікая канкурэнцыя — у катэгорыях жывапісу і разьбы. Аўтары прац іншых катэгорый мастацтва мусяць таксама напрацавацца, калі хочуць пазмагацца за перамогу. Цікавыя тэмы і матывы, а пры гэтым на прыстойным тэхнічным узроўні прадставілі на сваіх мастацкіх работах асобы з абмежаваннямі. У іх творчасці адлюстраваны іх багаты ўнутраны свет, — распавядала старшая інструктар Зінаіда Якуць.

Хаця ў гайнаўскім аглядзе не могуць прымаць удзелу асобы з мастацкай адукацыяй, то частка прац на выставе паказвае вялікую мастацкую спеласць іх аўтараў.

— Некаторыя нашы непрафесійныя творцы з цягам часу сталі мастакамі і прафесійна займаюцца мастацкай творчасцю, напрыклад Пётр Гаган, Данель Грамацкі ці Павел Верамюк, — удакладніла Зінаіда Якуць.

Некаторыя творцы-ўдзельнікі Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі памерлі, але аб іх арганізатары агляду захоўваюць памяць. Непрафесійныя творцы, якія найбольш разоў удзельнічалі ў аглядах гэта **Тамара Кердалевіч** з Чаромхі і **Мікола Яноўскі** са Старога Беразова. У 2018 годзе атрымалі яны першыя ўзнагароды ў сваіх катэгорыях. У дваццаць пятым выпуску агляду журы (Іаанна Кярсноўская, Крыстына Куніцкая і Ліля Вышкоўская) у катэгорыі жывапісу першыя месцы прызначыла **Міколу Яноўскаму** і **Станіславу Паскробку**. На другіх месцах апынуліся **Марк Сапёлка** і **Ядвіга Вілюк**, трэція месцы занялі **Яцэк Некраш** і **Міхал Навіцкі**, а вылучэнні атрымалі **Андрэй Болтрык** і **Малгажата Невядомская**.

— Падчас ранейшых аглядаў займаў я першыя і іншыя прызавыя месцы. Цешуся, што за навейшыя мае карціны атрымаў першую ўзнагароду. З 2003 года я не прапусціў ніводнага агляду, рыхтаваў многа прац. На апошні выпуск данёс ажно шэсць карцін і папрасіў, каб лепшыя выбралі для конкурсу. На выставе я магу параўнаць свае карціны з работамі іншых жывапісцаў, заўважыць цікавыя тэмы ў іншых творцаў. Прымаю ўдзел у Ваяводскім мастацкім аглядзе для непрафесіяналаў у Беластоку, які адбываецца кожныя два гады. Бачу, што ўзровень гайнаўскага агляду не горшы, чым беластоцкага. Напрыклад, у мінулым годзе за тую самую карціну з зубрамі ў Гайнаўцы атрымаў я вылучэнне, а ў Беластоку ажно першую ўзнагароду, — заявіў Мікола Яноўскі са Старога Беразова, якога тры вялікія алейныя карціны з краявідамі красаваліся на выставе.

**Януш Кулеша**, які стварае ў розных тэхніках, апошнімі гадамі перамагаў у катэгорыі рысунку. На гэты раз таксама перамог у гэтай катэгорыі. Выкананыя ім партрэты дзяўчынак змешчаны на пачатку конкурснай экспазіцыі. Вылучэнні з ліку рысавальшчыкаў атрымалі **Эмілія Лягутка**, **Мілена Курадчык** і **Моніка Васільеў**. Першае месца ў катэгорыі графікі атрымала **Тамара Кердалевіч**, а вылучэнне — **Яўгенія Маліноўская**.

— Я раней найчасцей прапанавала алейныя карціны, жывапіс. На гэты раз рашылася выканаць лінагравюру з птушкай, якой вучылася ў мастака Данеля Грамацкага на занятках у Гайнаўскім белмузеі. За лінагравюру камісія прызначыла мне першае месца. На аглядах мастакі-аматары абменьваюцца вопытам, знаёмяцца з лепшымі працамі калег па пэндзлю, — сказала Тамара Кердалевіч з Чаромхі.

Як жывапісцы, так і скульптары атрымалі многа ўзнагарод. Першыя месцы камісія прысвоіла разьбярам **Міхалу Коцу** і **Міколу Ягадніцкаму**, другія ўзнагароды атрымалі **Мячыслаў Дудзін** і **Тамаш Кердалевіч**, а трэція месцы занялі **Мікола Корх** і **Анатоль Алексяюк**. Міхал Коц вядомы як аўтар скульптур з выявамі прадстаўнікоў розных прафесій. Яго вялікая выява ахоўніка Белавежскай пушчы размешчана на кругавой развязцы пры выездзе з Гайнаўкі ў напрамку Кляшчэляў. На гэты раз Міхал Коц выканаў у драўніне цікавую разнаколерную кампазіцыю «Хор пяючых анёлаў» з пяці постацей. Рэпрадукцыя кампазіцыі апынулася на тытульнай старонцы буклета, у якім змешчаны здымкі лепшых прац агляду.

— Я займаюся разьбой каля пяцідзесяці гадоў і зрабіў каля двухсот работ. Шмат з іх узнагароджваліся на конкурсах і аглядах. Выконваю біблейскія постаці, паколькі цікавяць мяне рэлігійныя матывы, — сказаў **Мікола Ягадніцкі**, гайнаўскі скульптар родам з Чыжоў. Быў ён узнагароджаны журы за скульптуру з выявай Ісуса.

Усе скульптары — удзельнікі гайнаўскага конкурсу, выконваюць працы на добрым тэхнічным узроўні і таму ў гэтай катэгорыі агляду ёсць вялікая канкурэнцыя ў змаганні за першынство. Напрыклад Мікола Корх, які сёлета атрымаў трэцюю ўзнагароду, у мінулым быў лаўрэатам першага месца і займаў другія месцы.

Журы вылучыла таксама працы ў іншых тэхніках. **Лена Харкевіч** і **Ірэна Васько** атрымалі вылучэнні за мастацкія тканіны. З ліку непрафесійных творцаў камісія вылучыла **Януша Лісевіча** і **Марка Сакоўскага**.

— На XXV Агляд было дасланых многа разнародных прац. На выставе можна паглядзець цікавыя мастацкія работы, выкананыя рознымі тэхнікамі на высокім узроўні, — заявіла старшыня журы **Іаанна Кярсноўская**.

Пераможцы атрымалі статуэткі агляду і ўзнагароды, астатнія ўдзельнікі — дыпломы і буклеты, якія ўручылі бургамістр Гайнаўкі **Ежы Сірак** і дырэктар ГДК **Расціслаў Кунцэвіч**. Падчас мерапрыемства з кароткім канцэртам выступілі дзяўчаты, якія спяваюць у Студыі песні ГДК.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

# Засталіся адно ўспаміны (51)



Канчаецца мой аповед аб шасцідзясятых гадах, калі я працаваў у Ваяводскім праўленні кіно на штаце кіраўніка кінаперасовачнай брыгады BR-9. Гэта ўспамін пяцідзесяціпяцігадовай даўнасці. Прашу затым у чытачоў прабачэння, калі дапусціўся памылак у прозвішчах. Таксама хацелася б мне пачуць адгалоскі і асабістыя ўспаміны герояў таго часу. Наша брыгада абслугоўвала пяцьдзясят тры сёлы Гайнаўскага і часткова Бельскага паветаў. Маршрут пачынаўся з першага чысла месяца і праходзіў праз Заблудаў, Нарву, Гайнаўку, затым Кляшчэлі, Бельск-Падляшскі, Боцькі, а канчаўся ў зваротным напрамку праз Рыбалы і навакольныя вёскі: Кнаразы, Паўлы, Давідавічы і Цялушкі. Немагчымым было б апісаць зараз мінулыя будні ў храналагічным парадку так, як праходзіў тагачасны маршрут. Я не рабіў тады цякучых запісаў ані занатовак. Пісаў, што захавалася ў памяці. Трымаўся таксама дакументаў з дамашняга архіва.

У Давідавічы мала заязджалі. Сяло налічвала не больш трыццаці гаспадарак. Фільмы дэманстравалі ў святліцы. Публікі прыходзіла няшмат, таму хутка сяло выкраслілі са спіска. У Паўлы заязджалі з боку Рыбалаў. Тыпова падляшская вёска з пачатковай школай і вясковай крамай. З настаўнікаў ніводнае прозвішча не захавалася ў памяці. Шмат людзей прыходзіла на сеансы. Бывала, што невялічкая школьная зала не магла ўсіх змясціць. Са сталых гледачоў прыпамінаю двух братоў (прозвішчы не захаваліся ў памяці). Малодшага цікавіла кінаапаратура. Кожны раз, калі заязджалі з кінаперасоўкай, сядаў побач механіка і назіраў за абслугай апаратуры. Праз нейкі час механік дазваляў хлопцу ўставіць кінаплёнку ў праектар і пускаць у ход апарат. Пасля наш знаёмец з Паўлаў прайшоў неабходнае прафесійнае абучэнне і працаваў памочнікам апаратара ў кінатэатры «Зніч» у Бельску-Падляшскім.

З Паўлаў праз лясок заязджалі ў Цялушкі. З гэтай вёскі выходзіла двух кіноШнікаў: Віктар Іванюк і Янка Паўлючук. Абодва працавалі на перасоўках. Першы шафёрам у брыгадзе BR-18 на Сямятыцкім павеце, а Паўлючук знаходзіўся ў «запасе». Заступаў у час водпуску Аліка Чарняніна. У Цялушках працавала сямікласная школа. Кіраўнічкай, як не памыляюся, была Лідзія Іванюк. Яе муж быў начальнікам пажарнай каманды. З пажарнікамі ладзілі мы сяброўскія адносіны. Прыпамінаецца мне рыбалка над рэчкай Нарвай. Прыехаў аднойчы Уладэк Федаровіч з Павятовай камендатуры пажарнікаў з Бельска-Падляшскага, з якім мы пазнаёміліся ў Малінніках. Начальнік пажарнікаў рашыў арганізаваць рыбалку. З невадам падаліся над рэчку. Мы заехалі на машыне. Паколькі пажарнікі займаліся рыбалкай, дык мы прыладзілі нафтавы «прымус» і патэльню для смажання рыбы. Неўзабаве ў супольнай кампаніі сядзелі мы на пледах на траве пры свежа спечанай рыбцы. А на адвячорку пераехалі ў школу на фільм. У сяле я пасябраваў з мясцовым прадаўцом Міхалам. Аказаўся сардэчным прыяцелем. А на рыбалцы не ўсю рыбку сасмажылі. Апошнюю, што засталася, пажарнікі пароўну падзялілі — Федаровічу і мне. Я сваю перадаў бельскаму сябру, паколькі дамоў не збіраўся ехаць і баяўся, што сапсуецца.

Прыйшла вясна 1969 года. Пасля калатнечы з шафёрам Скепкам у Пашкоўшчыне я хадайнічаў аб змене работы. Дапамагала мне ў гэтым старэйшая сястра Яўгенія. Працавала яна на чыгуначнай станцыі ў Чаромсе ў начлежных пакоях для кандуктараў. Яна і перадала мне вестку, што ў Семяноўцы патрабуюць працаўнікоў. Я падаў заяву і чакаў адказу. У брыгадзе атмасфера станавілася невыноснай. Я намагаўся чым хутчэй звольніцца. У ВПК кіраўніцтва ведала аб нашым канфлікце. Справу пяцікратна разглядалі на праўленні прафсаюзнай арганізацыі. У канчатковым выніку шафёра рашылі прызначыць у брыгаду на Высока-Мазавецкі павет. Для Скепкі нязручным было аддаляцца ад дома. Рашыў падаць прашэнне аб звальненні з работы. Але здарылася рэч небывалая, якая ніколі не павінна была здарыцца. Пры канцы працы ў маі 1969 года мы пераязджалі ранкам з Катлоў у Кнаразы. У Бельску-Падляшскім у час спрэчкі шафёр Скепка паспрабаваў мяне вышпурнуць з кабіны на вуліцу. Я рашыў прыняць рашучыя меры — неабходна падацца ў Беласток і адказацца ад супрацоўніцтва з шафёрам Скепкам. Пасля ранішніка для школьнікаў у Кнаразах, падаліся мы ў ВПК. Аб падзеі дэталёва напісаў я ў пісьмовай заяве. Рашэннем галоўнага дырэктара шафёра Уладзіміра Скепку перавялі ў брыгаду на Высока-Мазавецк, а нам да канца маршруту прызначылі Уладэка Іванюка. У канцы траўня 1969 года я атрымаў апошнюю зарплату ў ВПК. 2 чэрвеня падаў заяву аб звальненні з працы. У службовым пісьме ад 4 чэрвеня дырэктар Ірэнэуш Крцаль паведаміў, што 5 чэрвеня па маёй просьбе працоўная дамова спыняецца.

Уладзімір СІДАРУК




Адной з найгоршых рыс многіх людзей, якія называюць сябе беларусамі, ёсць не толькі абыякавае, але, што насамрэч жахліва, грэблівае стаўленне да сваёй гісторыі. Дзесяцігоддзі прымушэння да савецкага і расійскага гістарычнага кантэксту зрабілі сваю чорную справу — беларусы не ведаюць менавіта ўласнай гісторыі, той гісторыі, якая зрабіла іх народам.

Час ад часу ў Байнэце ўзнікаюць сайты, на мэце якіх ставіцца большае распаўсюджанне гістарычных і краязнаўчых ведаў. Казаць, што гэта неяк значна паўплывала на сітуацыю ў лепшы бок, нельга, бо стаўленне большасці беларусаў да сваёй гісторыі застаецца ранейшым. Тым не менш пашырэнне ведаў аб гісторыі справа карысная незалежна ад таго, ці ўвянчаецца яна поспехам.

Адной з чарговых спроб стварэння партала на гістарычную тэматыку стала з'яўленне сайта „Наша гісторыя", які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://history.nn.by.** Як бачна нават па адрасе, новая інтэрнэтбачына з'яўляецца праектам беларускай газеты „Наша ніва". Прычым дадзены праект існуе не толькі ў электронным, а таксама ў папяровым выглядзе, бо разам з сайтам летась свет пабачыў і аднайменны часопіс. „Да сёння ў Беларусі слаба развіта сістэма папулярызацыі нацыянальнай гісторыі. З гэтага сыходзіць місія рэдакцыі — перадолець разрыў паміж навукай і масавымі ведамі. Сярод аўтараў — найлепшыя гісторыкі-навукоўцы, а пішуць яны пра розныя эпохі, герояў і ліхадзеяў", — апісваецца канцэпцыя выдання, першы нумар якога з'явіўся ў жніўні мінулага года.

Зыходзячы з такой канцэпцыі натуральнымі бачацца рубрыкі часопіса, а значыць і яго сайта. Сярод іх „Вайна", „СССР", „ВКЛ", „Спецслужбы", „Адкуль наш род", „Рэч Паспалітая", „Народы Беларусі", „Турыстычны кірункі", „Кухонныя гісторыі" і гэтак далей. То-бок, змест разлічаны не на навукоўца, а на звычайнага чытача, якому можа быць нешта цікава з гісторыі роднай зямлі. Праўда, зацікаўленасць гэтым мусіць быць даволі моцная, бо практычна ўсе артыкулы, якія змешчаныя на сайце, немагчыма адкрыць, калі не аплаціш сваё планаванае чытанне.

Уласна сайт „Наша гісторыя" выглядае даволі прывабна. Уверсе пад назвай знаходзіцца выйсце на галоўную тэму. Ніжэй ідуць загалоўкі іншых артыкулаў, аздобленыя фотаздымкамі і малюнкамі. З правага боку можна пабачыць апошнія каментарыі да тых ці іншых матэрыялаў. Дарэчы, адным з апошніх, якія выклікалі дыскусію ў частцы беларускага грамадства, гэта выказванні былога апазіцыйнага, а цяпер апантанага праўладнага гісторыка Ігара Марзалюка. Яго выказванне аб Студзеньскім паўстанні, як цалкам польскай з'яве, знайшло мноства апанентаў, якія не хочуць, каб з пантэону беларускіх змагароў за волю выкрэслівалася імя Кастуся Каліноўскага. „А мяне ў школе вучылі, што беларускае паўстанне. Насамрэч, усё проста: калі марыш маскоўскае карыта аблізваць, дык і будзеш крамлёўскім сабакам падбрэхваць", — так выказваецца адзін з чытачоў „Нашай гісторыі".

Але насамрэч усё не так адназначна. І тут варта прыгадаць словы пяцігадовай даўніны беластоцкага гісторыка Алега Латышонка ў інтэрв'ю „Радыё Свабода". „Калі б справы веравызнання сталі для беларусаў зусім няважнымі, то агульная акцэптацыя Каліноўскага як нацыянальнага героя была б магчымай. Так як было гэта магчыма ў савецкі час. Але ў рэальнай сітуацыі сённяшняй Беларусі гэта малаверагодна", — адзначыў ён.

Аляксандр ЯКІМЮК

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

### 25 гадоў з дня смерці

# Генадзя Каханоўскага

Беларускі гісторык, археолаг, літаратуразнавец Генадзь Каханоўскі нарадзіўся 8 студзеня 1936 г. у вёсцы Дамашы каля Маладзечна. Вядомы тым, што асноўную сваю дзейнасць прысвяціў роднаму Маладзечанскаму краю.

У 1952 г. Каханоўскі скончыў сямігодку ў Насілаве, праз тры гады сярэднюю школу ў Лебедзеве. Юнацкія гады Генадзя Каханоўскага прайшлі ў Маскве, дзе ён вучыўся. Нейкі час паралельна працаваў у васьмігадовай школе ў вёсцы Ленкаўшчына на Маладзечаншчыне, потым у школах Маладзечна. У 1963 г. скончыў Маскоўскі педагагічны інстытут. У той час узначальваў беларускае студэнцкае зямляцтва, сустракаўся там з Уладзімірам Дубоўкам і Міколам Улашчыкам.

Пасля сканчэння вучобы Каханоўскі вярнуўся ў Маладзечна, дзе з 1964 г. працаваў у абласным краязнаўчым музеі, стварыў экспазіцыю. За яе змест краязнаўца звінавацілі ў нацыяналізме. У 1969 г. атэстацыйная камісія прызнала працу маладога гісторыка-патрыёта шкоднай для „камуністычнага выхавання савецкіх людзей". Гісторыка вінавацілі нават за тое, што ён казаў пра страты ў вайне Беларуссю кожнага чацвёртага свайго жыхара, а значыць „штучна завышаў ролю беларускага народа". Звольнена Каханоўскага аднавілі на працы, дзякуючы толькі заступніцтву літаратараў і навукоўцаў Максіма Танка, Івана Новікава, Янкі Брыля, Генадзя Бураўкіна, Міхася Ткачова, Міхася Чарняўскага. Аднак цкаванне гісторыка не спынялася. Улады не дазвалялі Каханоўскаму выязджаць за мяжу. Чарговыя напады на Каханоўскага адбываліся ў 1974 г. у час разгрому так званага „Акадэмічнага асяродка" — прадстаўнікоў беларускай навуковай інтэлігенцыі.

Нягледзячы на перашкоды з боку камуністычных улад, Каханоўскі стаў спачатку намеснікам, а потым і дырэктарам Мінскага абласнога краязнаўчага музея. З 1981 г. быў старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, з 1991 г. стаў старшым навуковым супрацоўнікам, загадчыкам аддзела Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны.

У 1989 г. Генадзь Каханоўскі стаў адным з заснавальнікаў Беларускага краязнаўчага таварыства і стаў яго першым старшынёй. Гісторык актыўна ўключыўся ў беларускі рух часу перабудовы, прыязджаў у розныя гарады, у прыватнасці выступаў у Гродне на клубе „Паходня". У 1992 г. абараніў першую ў Беларусі доктарскую дысертацыю па крыніцазнаўстве матэрыяльнай і духоўнай культуры нашага народа. Напісаў і выдаў шэраг кніг па фалькларыстыцы і археалогіі, даследаванні, прысвечаныя Яўстаху Тышкевічу, Адаму Кіркору, Максіму Багдановічу. Дэталёва даследаваў Койданаўскі кальвінскі збор. Вывучаў гісторыю археалогіі, музейнай справы, краязнаўства, пытанні аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Выступаў у друку пад псеўданімамі Габрук, Верасень, Г. Гак. Генадзь Каханоўскі — аўтар літаратурна-краязнаўчых нарысаў пра Янку Купалу, Яна Баршчэўскага, Адама Гурыновіча, Фелікса Тапчэўскага, Міхася Чарота, гісторыка-эканамічных нарысаў „Вілейка" (1974), „Маладзечна" (1988) і іншых. Адзін з аўтараў помніка „Дарозе" — так званаму Віленскаму шляху — на радзіме Тамаша Зана — вёсцы Мясата на Маладзечаншчыне.

Памёр Генадзь Каханоўскі ў родным Маладзечне ў веку толькі 58 гадоў 15 студзеня 1994 г. Пахаваны на могілках каля вёскі Насілава на ўскрайку Маладзечна.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

*Нараўка*

## Як сустракалі Новы год

Весела сустракалі Новы 2019 год жыхары Нараўкі і навакольных вёсак. Мерапрыемства ў мясцовым амфітэатры над рэчкай Нараўкай ладзіў войт Нараўчанскай гміны Яраслаў Галубоўскі і дырэктарка Гміннага асяродка культуры Галена-Марыёля Рээнт. Перад поўначчу на сцэне зайграў інструментальны калектыў „Кантрольны вобраз” з Гайнаўкі.

Надышлі апошнія хвіліны 2018 года. Сабраныя перад сцэнай гледачы пачалі голасна іх лічыць: „тры”, „два”, „адзін” і ўсе загудзелі ды запляскалі ў далоні. З навагоднімі зычаннямі выступілі войт гміны, дырэктарка ГАК і іншыя асобы. Паплыла прыгожая музыка. Затым увысь, да хмар, паляцелі разнаколерныя феерверкі. Ад штучных агнёў стала відна-відна.

Зараз прывітанне Новага 2019 года ў Нараўцы было крыху іншае чымсьці ў мінулыя гады. І было яно ўсім даспадобы. Новы войт падрыхтаваў пачастунак для ўсіх. Было вогнішча і падпечаныя на агні кілбаскі (да іх можна было ўзяць кетчуп, гарчыцу, хлеб). Хто хацеў з'есці нешта іншае, браў тады сабе гарачы бігас. Падсілкаваўшыся, усе пілі гарачую каву або гарбату. Ноч стаяла цёмная і халодная. Холадам цягнула ад ракі. Пасля цёплай стравы ўдзельнікі навагодняй сустрэчы не адчувалі холаду. Яны танцавалі пад гукі аркестра і радаваліся.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

**Дар'юш ЖУКОЎСКІ**

*** * ***

Тры каралевы Вера, Надзея і Люба,
У сваіх цёплых хустках,
Тратуарам паўз парк,
Ішлі ў бок царквы,
Стаяла студзеньская марозная ноч,
Яны чулі, што сённяшняй ноччу,
Ізноў нарадзіўся Ён,
Вяла іх звычайная жыццёвая мудрасць,
І не было ніводнай зоркі ў небе,
Не неслі таксама ніякіх зямных скарбаў,
Якія б маглі прыпаднесці ў дар,
Ладану, якога ўздымаючыся дым,
Быў знакам малітвы накіраваной у неба,
Золата, знаку багацця на зямлі,
Міро, якое служыла для памазання цела,
Былі ў іх толькі,
Свае матчыны сэрцы,
А на хустках мелі толькі адбіткі твараў,
Кожнага са сваіх дзяцей.



## Вышывальшчыцы

Шматлікія вясковыя гаспадыні ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета займаюцца ручной вышыўкай. Яны вышываюць ручнікі, макаткі, навалачкі на падушкі ды святочныя белыя кашулі і блузкі, а таксама карціны. Да гэтага трэба мець замілаванне і цярплівасць. Каляровыя ніткі вышывальшчыцы купляюць у крамах з махрой і мулінай або ад гандлярак з Беларусі.

Вышыўкай займаюцца Галіна Вяжхоўская з Заблотчыны, Тамара Скепка з Забрадоў, Яўгенія Смольская, Зіна Рубчэўская, Марыя Целушэцкая і Нэля Харкевіч з Новага Ляўкова, Ірэна Ігнацюк, Крыстына Паскробка, Міраслава Балтрамюк і Галіна Прычыніч са Старога Ляўкова, Лідзія Харкевіч з Лешукоў, Марыя Каральчук і Іаланта Турасінская з Новай Лукі, Данута Каліноўская з Новага Масева, Лена Харкевіч, Малгажата Краўчык, Галіна Бірыцкая і Людміла Зданоўская з Плянты ды Альжбета Матысюк і Галіна Панкоўская з Семяноўкі.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**




# 20.01 — 26.01

**(21.03. — 19.04.)** Магчымы крызіс у пачуццях да 24.01. Паправіцца сітуацыя дома. З 22.01. на працы будзе лепш, праб'ешся са сваімі задумамі. Здзяйсняюцца твае амбіцыі і ўрэшце адчуеш, што ты на адпаведным месцы. Неталерантнасць для тых, хто табе стане на дарозе. Кантакты з людзьмі навучаць цябе, як змагацца за сваё і спрытна выкарыстаць свае перавагі. Не выходзь на вуліцу з недасушанымі валасамі.

**(20.04. — 20.05.)** Да 22.01. чакаюць цябе гарачыя рандэву. 20-24.01. будзе прыхільнасць атачэння, карысныя знаёмствы. 22-24.01. рызыка можа цябе шмат каштаваць. Пагражаюць табе інфекцыі. Можа цябе агарнуць прыгнечанасць 20-24.01. — пераможаш яе гімнастыкай або энергічным шпацырам з кійкамі. На працы ты пільны, паможаш іншым. Можаш набыць штосьці каштоўнае з тваіх мараў. Не прастудзіся.

**(21.05. — 20.06.)** Дзякуючы рэфлексу зможаш набыць неблагія прыбыткі. 20-22.01. найлепшы час на любоўныя сустрэчы. 22-24.01. выпадкова не папсуй чагосьці. 20-25.01. атрымаеш каштоўныя парады, нават калі спачатку здадуцца табе бесталковымі (дзякуючы ім не зробіш памылкі 22-24.01.). 22-24.01. самаўпэўненасць, удачы ў фінансах. Можаш выйграць аўкцыён, пераканаць кіраўніцтва да свайго павышэння.

**(21.06. — 22.07.)** У пачуццях больш «люзу»! Крышынка зайздрасці можа разагрэць інтым. Добра зробіць табе размова, нават праз інтэрнэт, з асобай якую любіш і якой давяраеш. Пасля 21.01. палагодзіш адносіны з калегамі. Спрабуй сілы ў нетыповых праектах. На пакупках не пакіне цябе здаровы розум. Хаця 20-24.01 будзеш ныцікам і капрызай, што не надта добра прыме асяроддзе. Адграбеш памяткі продкаў, перадасі іх навуку. Варта зайграць у латарэю.

**(23.07. — 22.08.)** Поўня 20-22.01. спрыяе знаёмствам з небанальнымі людзьмі; можа паявіцца таксама кандыдат да тваёго сэрца проста з мараў. Таксама няшчыльныя знаёмствы могуць перамяніцца ў сур'ёзныя, а могуць кончыцца нават шлюбам. Паправяцца твае адносіны з атачэннем. На працы выкажашся крэатыўнасцю, рэфлексам і добрай арганізаванасцю, што можа кончыцца павышэннем (20-24.01.).

**(23.08. — 22.09.)** Добрыя задумы і энергія для іх рэалізацыі. 20-24.01. у пары асаблівы час — сапраўднае каханне вартае нават ахвяр. На працы павальней ад 21.01., не трацць часу на неістотнае. Чакаюць цябе там змены 21-23.01.; выкажыся ініцыятывай, а хутка пабачыш эфект. Дбай аб свае дыхальныя шляхі.

**(23.09. — 23.10.)** 20-21.01. можаш закахацца з першага пагляду. 20-24.01 можаш выйграць у латарэю або зрабіць залаты інтарэс. Прыцягнеш увагу, будзеш вельмі бачны 20-24.01. 20-24.01. здасі экзамен з цярплівасці, спеласці, стойкасці перад стрэсам.

**(24.10.—21.11.)** Спадзявайся шчаслівага заканчэння розных спраў. З 22.01. ідэальны момант, каб адваяваць сваё. Выслухаеш сяброў. На працы добрыя нагоды — далучыся да цікавага, развойнага праекту. Падзелішся поспехам, але і працай. 20-24.01. можаш пазмагацца за павышэнне — належыцца яно як мала каму! 20-24.01. могуць азвацца хранічныя хваробы (асабліва ў Скарпіёнаў з І дэкады) — старайся праводзіць час на адкрытым паветры (апранайся цёпла). 20-24.01. не бяры на сябе больш, чым дасі рады справіцца.

**(22.11. — 21.12.)** 20-22.01. перастанеш пераймацца крытычнымі заўвагамі. З 22.01. (да 28.01.) правядзеш вельмі ўдалыя негацыяцыі. Добрая энергія ў пары 20-24.01. Не раскідвайся грашыма. Пад канец тыдня нагоды разважліва запланаваць будучыню. Будзеш спакойны, цвярозы, не будзеш панікаваць. Не ляніся і не дагаджай лішне сабе, варушыся.

**(22.12. — 19.01.)** 20-24.01. можа здарыцца вялікая аварыя дома; сам з ёю справішся. Чорная квадратура на працы — 19-24.01. цяжкія неспакойныя дні; не ўваходзь у дарогу шэфу і супрацоўнікам, слухай загадаў. Не фарсіруйся фізічна, не паламіся. Шпацыруй, праветрывай галаву і эмоцыі.

**(20.01. — 18.02.)** 20-21.01. распаліцца агонь у пачуццях. 22-24.01. захавай свае крытычныя заўвагі для сябе сярод радні і сяброў; цяпер можаш лёгка афоміць справы ва ўстановах. Працу на ўласны рахунак пачынай з 20.01. Можаш цяпер кінуцца на глыбокую ваду ў фізкультуры, але дбай аб суставы і калені, бо да 24.01. магчымыя кантузіі. Памогуць гамеапатычныя лекі.

**(19.02. — 20.03.)** 20-24.01 прызнанне кіраўніцтва. Калі кахаеш, пазмагайся за адносіны, спрыяе табе кан'юнкцыя Венеры з Юпітарам. Добрыя вынікі на працы і ў школе. Падпішаш карысныя дамовы, атрымаеш прапанову на вялікі праект. Для Рыб на штаце новыя прафесійныя шанцы. 20-24.01. заангажаванне ў розныя задумы, ад якіх будзеш мець прэмію, павышэнне; добра (і шчасліва) у студэнтаў. Шануй сваё цела, добра высыпайся, адпачывай. Пі зялёную гарбату і ерба-матэ.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. шматгадовая балотная трава з цвёрдым, доўгім, вузкім лісцем (*Carex*) = 30 _ 8 _ 33 _ 20 _ 19 _;
2. востраў = 32 _ 35 _ 1 _ 24 _ 25 _;
3. яўрэй = 6 _ 7 _ 34 _;
4. даўганогая птушка з доўгай загнутай дзюбай, якая жыве ў цёплых краінах (*Threskiornis*) = 21 _ 18 _ 22 _ 23 _;
5. прычаліў на каўчэзе да Арарата = 29 _ 27 _ 31 _;
6. спорт з клюшкамі і шайбай = 12 _ 13 _ 26 _ 3 _ 28 _;
7. маскоўскі ўладар = 2 _ 5 _ 4 _;
8. найдаўжэйшы левы прыток Дуная = 10 _ 11 _ 16 _ 17 _;
9. казачная злая баба = 9 _ 14 _ 15 _.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | | | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
| | | | | | | 32 | 33 | 34 | 35 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 51 нумара**

Азот, Вінніца, гной, год, Ева, зад, захоп, маца, цвіль, цунамі.

Рашэнне: **Хто за двума зайцамі пагоніцца, ніводнага не зловіць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'яюк** з Бельска-Падляшскага, **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

(працяг з «Нівы» № 2)

Паломнікаў, што перасякалі браму святога горада, вітаў надпіс: «СПАЗНАЙ СЯБЕ САМОГА!»

Гэты дэвіз заклікаў да інтэлектуальнай актыўнасці, хоць, як сцвярджаюць аўтарытэтныя дэльфалогі, не ідзе тут пра чыстую псіхалогію. Хутчэй за ўсё паломнікі павіны паказаць сваё багацце і прэстыж. А шчодрасць і любоў, з якой старажытныя жыхары Элады славілі сваіх багоў, цяжка перакласці на сучасныя меркі. Паасобныя гарады-дзяржавы заўзята сапернічалі, кожны імкнуўся пераўзысці ў багацці і прыгожасці канкурэнцыю. Найбольшы росквіт Дэльфаў выпадае на VI і V стагоддзі да н. э., калі горад займеў славу самага багатага на Зямлі. Дзеля прынесеных скарбаў фундатары ўзводзілі спецыяльныя будынкі-свяцілішчы. Усярэдзіне трымалі залатыя фігуры і каштоўныя рытуальныя прадметы. Іх знешні выгляд нярэдка перавышаў усё, што да гэтай пары бачылі старажытныя. Першынство сярод дваццаці «банкаў» займела свяцілішча Сіфінаў, пабудаванае ў 525 годзе да н.э. у стылі ранняга іонскага перыяду. У такі спосаб жыхары Сіфнас прынеслі падзяку багам за адкрыццё вялікіх залежаў золата. Франтон свяцілішча аздаблялі карыятыды і рэльефы на міфалагічныя і гістарычныя тэмы, ды захапляўся імі ўжо сам Герадот. Сучасны наведвальнік таксама атрымае асалоду. Фрагменты арыгінальнага дэкору можна пабачыць у дэльфійскім музеі, які папаўняе археалагічны комплекс. Артэфакты, хоць без колішніх фарбаў і пазалоты, уражваюць пластычнай рэальнасцю і жывой энергіяй. Прамаўляе гістарычная памяць. Пэўнае ўяўленне пра характар свяцілішч дае рэканструкцыя свяцілішча Афінцаў. Яно на турыстычным шляху. Гэтая на першы погляд мармуровая простая будоўля ў залежнасці ад перспектывы мяняе свой выгляд і вабіць залатымі аповедамі...

* * *

— Ну, то пайшлі да піфіі! — пажартавалі мы пры акенцы з білетамі.

— Гэта не тая пара, — пажартаваў асавелы ахоўнік. І, уздыхаючы ад нуды, дадаў на амерыканскай ангельшчыне:
— Не тая пара і не той дзень!

Заўвага соннага працаўніка музея, які, як і ўсе ў Дэльфах, адпачываў ад турыстычнага сезона, здзіўляла. Апошні запыт дэльфійская піфія разгадала ў 360 годзе. Якраз укаранялася хрысціянства. З запытам пра духовую будучыню звярнуўся да яе канстанцінопальскі цар Юліян. Пасля доўгага і пакутлівага сеанса вяшчунка падыктавала адказ пасланцам з Канстанцінаполя: «Скажыце цару што святы горад абярнуўся ў руіны і высахлі яго крыніцы».

Гэта быў сімвалічны канец Дэльфаў як духовага і палітычнага цэнтра.

Ды сёння пачуць такія падказкі пра паравіны года і даты — чысты фальклор.

У залатыя часы дэльфійскага цэнтра піфія вяшчала толькі 9 разоў на год. Гэта быў сёмы дзень кожнага месяца. З гэтага цыкла былі выключаны тры зімовыя месяцы: снежань, студзень і люты. Праўда, пад ціскам бурлівых падзей часам прымушалі гадалак вяшчаць па-за рытуальнымі тэрмінамі. Такі прымушаны ўваход у транс выклікаў пакуты, вяшчунка часта губіла прытомнасць і стагнала ад болю...

Паколькі мы прыехалі на зломе «жывога і мёртвага» сезона, дакладна напрыканцы лістапада, не было ў нас спадзяванняў на паранармальныя з'явы. Абмежаваная колькасць турыстаў (як сказаў той ахоўнік — іх летам як мошак, гадзіну трэба стаяць у чарзе за білетам), не замінала. Яшчэ вялікі сюрпрыз падало надвор'е. З кожнай гадзінай рабілася



■ Ля свяцілішча Афінцаў (рэканструкцыя)

# Дэльфы: пуп і вантробы свету!



■ Пуп-анфал



■ Аргінальны рэльеф з франтона свяцілішча Сіфінаў. 525 год да н.э

горача і спякотна, каля абеду на тэрмометры адсвечваліся 23 градусы цяпла. Мы былі ў эйфарыі. Турыстаў з халоднага клімату адразу можна пазнаць па вопратцы і настрою. Шведы і ангельцы параспраналіся да цішотак і з захапленнем глядзелі то на аліўныя сады ў даліне, то на асветленыя вяршыні Парнаса. У гэтай міжнароднай кампаніі ў вочы кідаліся скуленыя, ахутаныя ў курткі і шалікі індусы і італьянцы... Яны хуценька даходзілі да святыні Апалона, фоткалі калоны і ў спеху ляцелі ў музей адагрэцца.

Археалагічны горад пачынаецца на вышыні 700 метраў, а каб дайсці да канца, трэба падымацца тэрасамі яшчэ за кіламетр. Я не лічу сябе скалалазкай, таму мяне інтрыгавала нечаканая лёгкасць, быццам выраслі новыя крылы.

* * *

Дэльфы — жывая кніга старажытнага свету. На здабытых з зямлі фрагментах мурфоў усё яшчэ відняюцца надпісы, урыўкі гімнаў і эпіграмаў. Каб расчытаць і зразумець усе тэксты, якія відняюць на адной агоры, спатрэбяцца гады. Паломнікі ў рамках «пазнаць самога сябе» пакідалі запіскі ў муры. У іх фіксавалі свае званне і дасягненні, перамогі або нечаканыя дары ад лёсу. Шмат эпіграмаў пакінулі навічкі-грамадзяне, якіх вызвалілі ад рабства. Частка запісаў прамаўляе як рэклама, наведвальнікі хвалілі свой тавар і паслугі. Іх разнавіднасць ашаламляе. Самыя нечаканыя аб'явы аднатаваў Плутарх, які нейкі час служыў жрацом Апалона. З нехаванай агідай аднатоўвае запіску прастытуткі, якая на мурах змяшчае свой адрас. З-за абмену інфармацыяй з цэлага свету, месца часта называюць «старажытным таблоідам»....

Тым часам мы перасеклі агору з запісамі і рушылі Святой дарогай да руін святыні Апалона. Раней, каб дастацца на гэты шлях, неабходна было здзейсніць ачышчальныя рытуалы і прынесці ахвяры з казы, авечкі або быка. Жывёлу набывалі ў горадзе, які 2,5 тысячы гадоў таму жыў з паломнікаў і прайдзісветаў, у тым ліку паэтаў і песняроў.

Сучасны археалагічны ландшафт прамовіў памэкваннем коз, якіх скарыстоўваюць у якасці касілак. Іншы гук — гэта гудок свісцёлак. З іх дапамогай ахоўнікі «праганяюць турыстаў, якія перасеклі загароджаныя зоны з артэфактамі. Найбольш шуму вакол Пупа свету. Камень кшталту яйка ахінае старажытная легенда пра незвычайнасць месца. Зеўс вылавіў з супрацьлеглых канцоў зямлі два арлы, якія сустрэліся ў Дэльфах. З іх дапамогай старажытны бог вызначыў сярэдзіну Зямлі ды пазначыў каменем-амфалам. Існуе павер'е, што той, хто дакранецца да каменя, авалодае касмічнай мудрасцю і спазнае самога сябе. Хоць пуп за агароджай, турысты ловяць нагоду каб дакрануцца да міфалагічнага цэнтра свету. У месцы не сціхае свіст ахоўнікаў, якія быццам для чыстага спакушэння выстойваюць у недасяжнай адлегласці. Гэтая неадназначная гульня разумеецца сама сабой. Камень агароджаны якраз так, каб дакрануцца рукой. Проста, немагчыма тут стрымацца!

А пасля ў музеі — адзін смех і сорам. Там выстаўлены сапраўдны амфал, той, які стаяў у атачэнні двух залатых арлоў у храме Апалона.

(працяг будзе)

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960